З 20 лістапада ўпершыню ў Беларусі стаўка рэфінансавання стане 9 працэнтаў гадавых.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою.*
**Якуб КОЛАС**

**№ 88 (4443)**

9 лістапада 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Ілля ДАБРАТВОР: «Жонка сказала: «Гэта – апошні раз!..»

*Індывідуальны прадпрымальнік і бацька пяцярых дзяцей, які балатуецца кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў па Лагойскай акрузе №75, распавёў «Народнай Волі» пра свае палітычныя погляды, сям'ю і жаданне змяніць у краіне жыццё да лепшага.*



– Некаторыя ў мяне пытаюцца: «Навошта табе марнаваць час на парламенцкую кампанію, калі ты ведаеш, як праходзяць у Беларусі выбары?», – *пачынае* ***Ілля ДАБРАТВОР***. – Мой адказ такі: у першую чаргу праз парламенцкую кампанію я хачу даносіць да людзей ідэі і мэты той арганізацыі, сябрам якой я з'яўляюся, – руху «За Свабоду». Хочацца паказаць народу, што ёсць у краіне і досыць разумная альтэрнатыўная пазіцыя.

Ды і мне самому цікава было паглядзець, чым жывуць сёння людзі, як яны рэагуюць на пікеты кандыдатаў, як ставяцца да выбараў.

**– Штосьці адкрылі для сябе новае?**

– Напрыклад, дзіўна было чуць, калі кандыдат ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі падчас дэбатаў заклікала прыходзіць на ўчасткі і галасаваць за яе, хаця раней гэтая партыя выступала ледзь не за байкот.

А ўвогуле, прыйшоў да высновы, што многія людзі, калі не большасць, цудоўна разумеюць, што адбываецца насамрэч. Іншая справа, што яны ўжо прызвычаіліся да сітуацыі, калі ніхто не збіраецца рабіць выбары сапраўды празрыстымі з такім жа празрыстым падлікам галасоў, а таму і выбару ў гэтых людзей асаблівa няма.

І шмат хто з прэтэндэнтаў адчуў «справядлівасць» выбараў ужо на этапе збору подпісаў, бо быццам бы ты і назбіраў гэтыя подпісы з запасам, але ніхто не дае гарантыі, што затым падпісныя лісты не прызнаюць няправільна афармленымі, а значыць, яны не будуць улічаны. Тыя ж Юрый Губарэвіч і Віктар Янчурэвіч з руху «За Свабоду» не сталі кандыдатамі менавіта з гэтай нагоды, іх «завалілі», можна сказаць, на роўным месцы.

А ў беларускіх рэаліях абскардзіць адмову ў рэгістрацыі і атрымаць станоўчы вынік – гэта як з ветракамі ваяваць. Адным словам, я зразумеў, што пры вялікім жаданні пры вылучэнні шляхам збору подпісаў можна «зарэзаць» любога прэтэндэнта, як любога можна і зарэгістраваць.

**– Некаторыя выступалі за байкот выбараў…**

– Гэтая кампанія паказала, што на такіх ініцыятывах трэба ставіць крыж і забывацца пра гэта. Напрыклад, па маёй акрузе балатуюцца шэсць кандыдатаў. Калі я і прадстаўнік Аб'яднанай грамадзянскай партыі вырашым байкатаваць выбары, то ўсё роўна застанецца чатыры кандыдаты, што, па вялікім рахунку, таксама паказвала б дэмакратычнасць выбараў.

Таму не мае сэнсу выключаць сябе з палітычнага працэсу, тым больш што парламенцкую кампанію можна выкарыстоўваць і ў якасці стартавага этапу падрыхтоўкі да прэзідэнцкай. Напрыклад, кіраўнік руху «За Свабоду» Юрый Губарэвіч актыўна ўдзельнічае ў маіх пікетах, размаўляе з людзьмі, ездзіць па рэгіёнах…

**– З якой праграмай вы ідзяце на гэтыя выбары? Што абяцаеце выбаршчыкам?**

– Што можна абяцаць, калі мы кажам, што сапраўдных выбараў няма? Падманваць людзей не ў маіх правілах, я ўдзельнічаю ў кампаніі, каб размаўляць з людзьмі. У маёй праграме няма абяцанняў, але больш пытанняў да ўлады.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

ЧУЛІ?

## Абралі 56 сенатараў

*Афіцыйныя вынікі выбараў у Савет Рэспублікі Цэнтрвыбаркам аб'явіць 12 лістапада.*

7 лістапада ў Мінску і кожнай вобласці дэпутаты мясцовых Саветаў шляхам тайнага галасавання абралі сенатараў (па восем ад кожнага рэгёна). Нечаканасцяў не адбылося – дэпутаты падтрымалі столькі кандыдатур, колькі было вылучана. Іх спіс "Народная Воля" ўжо друкавала, адзначаючы, што ніводны рэгён не вылучыў у сенатары дзейнага старшыню Савета Рэспублікі **Міхаіла Мясніковіча** і яго намесніцу **Мар'яну Шчоткіну**.

Напрыканцы кастрычніка з'явілася інфармацыя, што Шчоткіна падала заяву аб вызваленні яе з пасады віцэ-спікера Савета Рэспублікі, новае месца яе працы пакуль не вядома. Што тычыцца Мясніковіча, то, магчыма, яго кандыдатуру ў верхнюю палату парламента прапануе Аляксандр Лукашэнка. Як вядома, кіраўнік дзяржавы таксама прызначае сенатараў (максімум восем чалавек).

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ДАСЛОЎНА

## «Па Канстытуцыі ўжо ёсць 17 экспертных прапаноў»

*Пра гэта на сустрэчы з выбаршчыкамі ў магілёўскай школе №40 заявіў дэпутат* ***Ігар Марзалюк.***

«Важнейшая задача для парламента, для тых, хто прыйдзе, – гэта работа над новым варыянтам Канстытуцыі, над новай мадэллю палітычнай сістэмы. Ясна, што ўсё гэта будзе праходзіць праз рэферэндум. Ясна, што ўсё гэта будзе праходзіць з улікам меркавання абсалютнай большасці грамадзян», – *заявіў Марзалюк.*

«Ёсць на сённяшні дзень 17 розных экспертных прапаноў наконт Канстытуцыі, – *адзначыў дэпутат.* – Самыя важныя канстытуцыйныя змены – гэта пераразмеркаванне ўладных функцый, гэта больш улады парламенту, які будзе кантраляваць прэм'ер-міністра і ўрад у цэлым, гэта адміністрацыйна-тэрытарыяльная рэформа, рэформа мясцовага самакіравання. Менавіта беларуская ўлада, якую абвінавачваюць ва ўсіх грахах, абсалютна асэнсавана будзе ісці на вялікую лібералізацыю, большую свабоду ў гэтым кірунку. Для нас самае галоўнае – захаваць беларускую дзяржаўнасць, зрабіць Беларусь цалкам легітымнай, адэкватнай краінай у свеце, прызнанай усімі».

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

## Ліцвіны, трасянка і кусты агрэсту

Цэлы месяц я з нецярпеннем чакаў перапісчыкаў – падлічваў у галаве колькасць кустоў агрэсту на лецішчы ды інструктаваў жонку і сына, каб у выпадку маёй адсутнасці не забыліся засведчыць у перапісным лісце, што родная мова для ўсіх нас беларуская, а не трасянка, якую чамусьці вырашыў легалізаваць Белстат.

Чакаў перапісчыкаў, а прычакаў – агітатара. Спачатку падумаў: чалавек ходзіць па кватэрах і збірае подпісы за свайго кандыдата на маючых адбыцца выбарах. Аказалася, не, ён завітаў персанальна да мяне, бо, на яго думку, я мог бы запісацца падчас перапісу… ліцвінам. Чалавек размаўляў дзіўнаватай беларускай мовай, звяртаўся да мяне «вашэці» і быў надзвычай далікатны – хоць да раны прыкладай. Расказаў, што іх, ліцвінаў, шмат, што яны нарэшце выйшлі з падполля, маюць свае суполкі ў Сеціве і што, толькі назваўшыся ліцвінамі, мы здолеем захавацца як народ…

Агітатара я з лесвіцы не спусціў (хоць, прызнацца, гэткае жаданне было), выправадзіў з Богам. А сам падумаў, што сярэднестатыстычны беларус, у якога гістарычная куламеса ў галаве, можа лёгка паддацца на падобную агітацыю. Дарэчы, сярод маіх знаёмых ёсць перакананыя ліцвіны, якія даўно нясуць свае ідэі ў народ.

Вось Ганна Матусевіч з Дзяржынска прызнаецца ў «Фэйсбуку»: «Падчас перапісу я, пераадольваючы ўласную нерашучасць і цёмны супраціў хатніх, запісала сябе і траіх непаўнагадовых дзяцей ліцвінамі».

Вось гісторык Ян Лялевіч, супрацоўнік Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея, сцвярджае: «Яшчэ не позна вярнуць краіне сапраўднае імя – Літва».

А вось Пан Скіргайла-Паланецкі-Мацкевіч цытуе на сваёй інтэрнэт-старонцы «Акт абвяшчэння ліцвінскай нацыі», прагалошаны адносна нядаўна ў Навагрудку...

Гэтыя спробы пераназваць беларусаў у ліцвінаў нагадваюць мне распусканне тканіны, якое даводзілася назіраць у маленстве. Помню, у нашай хаце стаялі кросны, і жанчыны, выявіўшы нейкія агрэхі ў свежавытканай посцілцы, прымалі рашэнне распусціць немалы адрэзак тканіны.

Гэта была самая недарэчная, самая антыпрадукцыйная праца, якую мне даводзілася назіраць у жыцці. Колькідзённая работа ішла кату пад хвост!

А тут кату пад хвост хочуць пусціць кольківяковую працу. Агітатары на інтэрнэт-форумах заклікаюць адмовіцца ад назвы Беларусь, якую нам нібыта накінула расійская імператрыца Кацярына II, каб прывязаць Белую Русь да Русі Маскоўскай. А вось калі мы адмовімся ад Беларусі на карысць гістарычнай Літвы, то ўсё ў нас адразу пойдзе на лад: і нацыянальная свядомасць адновіцца, і мова адродзіцца, і самы заціяты імперац з намі ва ўсім палахліва згодзіцца. І тады ўжо мы падкуём сваіх коней залатымі цвікамі – як нібыта казалі некалі ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Не падкуём, на жаль. Па-першае, коней амаль усіх звялі, па-другое, залатога запасу ў Нацбанку хоць бы на падтрымку штаноў хапіла, не тое што на цвікі.

А калі сур'ёзна, то хочацца спытацца ў ахвотнікаў пераназвацца: вы сапраўды думаеце, што калі трухлявы плыт назваць ледаколам, то ён лёд пачне крышыць? Усё ж цягам стагоддзяў, хай сабе з вымушанымі перапынкамі, працавалі кросны і ткаўся, напаўняўся сэнсамі назоў *Беларусь*. Са сваімі пазнавальнымі, хоць і някідкімі, узорамі. А тут прыходзіць разумны дзядзька і кажа: саткана няправільна, трэба разаткаць назад.

Пакаленні і пакаленні працавалі за тымі кроснамі. Працавалі стваральна, пакідаючы сваю залатую нітку ў агульным узоры. Марудна, праз неймаверныя высілкі палатно ўсё ж ткалася. Прыходзіў вораг, ламаў кросны, вытоптваў льняныя палеткі і зганяў за сабой воўну, якая яшчэ бляяла і мэкала. Але мінаў час, недатканае палатно даставалася са схованкі, рабіліся новыя кросны, і праца працягвалася.

І калі Францішак Багушэвіч у прадмове да сваёй «Дудкі беларускай» накрэсліваў нашы этнічныя межы – ён ствараў нацыянальнае палатно пад назвай Беларусь.

І калі касінеры Кастуся Каліноўскага на пытанне «Каго любіш?» адказвалі «Люблю Беларусь!» – яны імкнуліся даткаць тое самае палатно.

І калі Янка Купала, які па прыродзе сваёй не ўмеў пісаць лозунгі, усё ж апошнім радком выдыхаў «гэта крык, што жыве Беларусь!» – ён дастварaў тое самае палатно, якое ў часы паэта ператварылася ў напоўнены сэнсам габелен, які можна было і на сцяну павесіць.

І Максім Багдановіч («Беларусь, твой народ дачакаецца»), і Уладзімір Жылка («О як соладка сэрцу маліцца: Беларусь, Беларусь, Беларусь»), і Уладзімір Дубоўка («О Беларусь – мая шыпшына»), і Наталля Арсеннева («Беларусь, Беларусь залатая»), і Ларыса Геніюш («Як жыць – дык жыць для Беларусі»), і Рыгор Барадулін («Беларусь – ты мой сон велікодны»), і сотні іншых выдатных творцаў жыццё паклалі, каб той габелен Беларусь даткаць, дарабіць, дастварыць. І – амаль даткалі, дарабілі, засталося пару ўзораў давяршыць ды кутасікамі аздобіць. А тут кажуць: габелен няправільны, на сметнік яго!

Саткаць новы мы ўжо не паспеем. Таму не варта гуляць з агнём і падыгрываць нашым ворагам, мэта якіх адна – распусканне беларускага палатна…

А перапісчыкаў я так і не дачакаўся. І мой сусед зверху – таксама. І дзядулю з суседняга пад'езда таксама не пашчасціла перапісацца. То каму патрэбны такі – выбарачны – перапіс? Дзіўна, чаму Белстат забыўся на шматлікіх беларусаў, але падлічыў кусты агрэсту і ўзаконіў трасянку, якая пасля абвяшчэння вынікаў перапісу, відаць, атрымае шанец стаць трэцяй дзяржаўнай мовай у Беларусі...

ПОСЛЕ СОБЫТИЯ

## «Золото Лістапада» уезжает в Украину

Все-таки какое счастье, что у нас есть этот праздник кино! Что каждую осень лучшие фильмы Восточной Европы, Грузии и Прибалтики приезжают в Минск и мы можем посмотреть фильмы, отмеченные на крупнейших фестивалях Европы.

Белорусская публика, за два с половиной десятилетия уже воспитанная, взращенная этим кинофорумом, преданно заполняла кинозалы столицы всю прошедшую фестивальную неделю. Тем более что она тоже имеет право голоса на «Лістападзе» – приз зрительских симпатий присуждается по итогам именно нашего с вами голосования. Но о нем чуть ниже. А теперь об итогах конкурсов по решению международного жюри, ведь вчера ММКФ «Лістапад-2019» закончил свою работу.

Гран-при «Золото Лістапада» присужден фильму «Атлантида» режиссера Валентина Васяновича (Украина). Приз «Лучшая режиссура» отдан Яну Комасу за фильм «Тело Божие» (Польша, Франция). Он же отмечен и Специальным призом жюри. Оба кинофильма – выдающиеся работы, после которых, как после настоящей проповеди, очень долго горит в душе светлый огонь искусства. Оба отмечены на 76-м Международном Венецианском кинофестивале.

Приз имени Ю.А.Марухина за лучшую операторскую работу присужден режиссеру из Китая Ким Хён Соку за фильм «Прощай, сын мой». «Лучшая женская роль», по мнению жюри, была сыграна актрисой Саломе Демурия – фильм «Вдох-выдох» (Грузия, Россия, Швеция). Приз «Лучшая мужская роль» тоже ушел в Грузию – актеру Левану Гелбахиани за работу в фильме «А потом мы танцевали» (Швеция, Грузия, Франция).

В Национальном конкурсе, который с некоторых пор проводится в рамках «Лістапада», лучшим игровым фильмом названа лента «Пляж/лес/тамбур» режиссеров Кирилла Галицкого и Светланы Козловской. Лучший документальный фильм – это, по мнению жюри, «Summa» режиссера Андрея Кутило (Польша, Беларусь). Лучший анимационный фильм – «Магистр вольных искусств Франциск Скорина», режиссер – Елена Петкевич (Беларусь).

Ну а что же приз зрительских симпатий? Он отдан польскому фильму «Тело Божие» – пронзительной, чувственной и честной ленте, в которой главную роль играет талантливый молодой актер Бартош Беленя.

Всего на кинофестивале «Лістапад» было присуждено 22 приза и диплома. На фестивальной неделе в Минске демонстрировались 156 кинолент. Но, если желающие не позаботились о билетах заранее, в залы кинотеатров было очень трудно попасть. И это, по-моему, самый главный итог нашего кинофестиваля.

**Виктория ДРОЗД.**

СМУТАК

## Ён быў надзвычай сумленны чалавек…

*На гэтым тыдні ў Лагойску пахавалі экс-дэпутата Вярхоўнага Савета 12-га склікання Аляксандра Шута.*



Ён быў абраны ў Вярхоўны Савет 12-га склікання на Лагойшчыне. Уваходзіў у склад дэпутацкай апазіцыйнай фракцыі, удзельнічаў у галадоўцы дэпутатаў супраць рэферэндуму 11–12 красавіка 1995 года. Быў жорстка збіты спецназам спачатку ў зале парламента, а потым міліцыяй па-за Домам урада.

Днямі Аляксандру Шуту ўручылі юбілейны медаль Рады БНР за «заслугі ў здабыцці незалежнасці Беларусі».

Ён памёр на 68-м годзе жыцця. Анкалогія…

«*Што магу сказаць пра Аляксандра? Гэта быў надзвычай сумленны чалавек*, – кажа былы дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання **Алег Трусаў**. – *Адукаваны, вельмі спакойны. Ніколі не адмаўляўся ад сваіх поглядаў, а гэта таксама няпроста.*

*Пасля дэпутацтва Аляксандр Шут вярнуўся на Лагойшчыну, і паколькі быў цудоўным медыкам, то, нягледзячы на прыналежнасць да БНФ, з пасады яго ніхто не папрасіў звольніцца. Так усё жыццё ўрачом і адпрацаваў».*

Алег Трусаў дадае, што ў гэтым годзе яны бачыліся некалькі разоў з калегам па парламенце.

*«У лютым напярэдадні 25-годдзя прыняцця Канстытуцыі Беларусі збіраліся дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га і 13-га скліканняў, Аляксандр таксама там быў,* – успамінае Алег Георгіевіч. – *Затым неяк бачыліся ў Пасольстве Літвы, куды нас запрасілі на імпрэзу. Праўда, пра сваю хваробу Аляксандр Шут нікому і нічога не казаў…»*

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ШТРЫХ

## Канкурэнт Ліліі Ананіч зняўся з выбараў

Інтрыгі не атрымалася. У Барысаўскай сельскай выбарчай акрузе №63, дзе ў Палату прадстаўнікоў балатуецца экс-міністр інфармацыі, намеснік старшыні грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз жанчын» **Лілія Ананіч,** на аднаго кандыдата стала менш. З перадвыбарнай гонкі зняўся, як і меркавалі некаторыя аналітыкі, асноўны канкурэнт Ананіч – начальнік Барысаўскага гарраайаддзела па надзвычайных сітуацыях **Уладзімір Пікуза**. Менавіта гэтых дзвюх асоб эксперты называлі кандыдатамі ад улады і гадалі, хто ж стане дэпутатам: 60-гадовая эксчыноўніца Ананіч або 41-гадовы «надзвычайнік» Пікуза?

Верагодна, вынік выбараў у дадзенай акрузе можна прадказаць ужо зараз. Эксперты не бачаць «пагрозы» для Ананіч з боку трэцяга кандыдата – прадстаўніка Ліберальна-дэмакратычнай партыі **Ігара Закрэўскага** (першапачаткова ў акрузе былі зарэгістраваны тры кандыдаты).

Варта адзначыць, што ў ходзе перадвыбарнай кампаніі ні Закрэўскі, ні Пікуза не сустракаліся з выбаршчыкамі, на іх выбарчыя рахункі не было пералічана ніводнага рубля. У той жа час Лілія Ананіч, як праінфармавала акруговая выбарчая камісія, з 19 кастрычніка па 15 лістапада плануе правесці 92 (!) сустрэчы з выбаршчыкамі. На рахунак кандыдата Ананіч паступіла сродкаў на суму 1805,73 беларускага рубля.

Да слова, акруговая камісія Барысаўскай сельскай выбарчай акругі №63 апублікавала звесткі пра зарэгістраваных у акрузе кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Аказваецца, былы міністр інфармацыі Лілія Ананіч на праве ўласнасці мае жылы дом агульнай плошчай 290,2 кв.метра ў Мінскім раёне, зямельны ўчастак 0,209 гектара, аўтамабіль маркі «Таёта Авенсіс» 2006 года выпуску. Даход за 2018 год намесніка старшыні грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз жанчын» склаў 21.641,51 беларускага рубля.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПО ПОВОДУ

# За закрытой дверью

Недавно ввязалась в дискуссию в социальной сети «Фейсбук». Белорусские пользователи обсуждали 16-летнюю шведскую школьницу Грету Тунберг. Она известная в мире экоактивистка. Девочка обвиняет руководства стран и крупные корпорации в невнимании к проблеме промышленных выбросов $CO_2$, из-за чего планета быстро движется к экологическому коллапсу. Ее действия и выступления (держала речь даже в ООН) способствовали тому, что эта тема стала одной из самых обсуждаемых на высоких мировых площадках. Журнал Time включил Грету в список самых влиятельных людей мира, правозащитная организация Amnesty international вручила ей награду «Посол совести», а власти Нормандии в сотрудничестве с Международным институтом прав человека и мира наградили ее первой Премией Свободы.

Я прошла бы мимо поста в «Фейсбуке», в котором автор годы отрочества этой современной юной шведки сравнивал почему-то с отрочеством сверстницы из блокадного Ленинграда, но не смогла сдержаться. И сам этот слегка завуалированный укор Грете, что она как сыр в масле катается и еще имеет наглость быть чем-то недовольной, а юная блокадница, мол, в 15 лет мучилась на заводе, голодная работала и при этом взрослым не перечила, показался мне глупым и возмутительным, а комменты под ним и вовсе рассмешили. Уж как честили Грету в комментариях наши доморощенные радетели правильного воспитания детей: и инфантилка она капризная, и устраивает праздники непослушания, а еще прогульщица школы. Один комментатор утверждал, что ее надо учить и воспитывать, и высказался, что лучший учитель года – это ремень.



Пришлось сообщить приверженцу ремня как метода воспитания, что в Швеции детей не бьют. И государство это запрещает, и общество не поддерживает. Личность ребенка там уважают, предоставляют пространство для свободного развития и самовыражения. И это, очевидно, сыграло роль в том, что шведская школьница оказалась на трибуне ООН со своим смелым выступлением и награждена тем, чем награждена. Нет в ней боязни проявлять себя.

У нас в стране детей бьют далеко не все. Но все-таки домашнего насилия по отношению к подрастающему поколению хватает. Как физического, так и психологического. А порой избивают так, что детей калечат, случается, они умирают. Как в Зельвенском районе, например, отец избил в октябре этого года четырехлетнюю дочь, и она умерла в больнице. И объяснение-то какое привел: за непослушание, мол, наказал. Или мать молотком 8-летнюю дочь по голове била. Папаша из Витебска избил четырехлетнего малыша и выгнал из дома. Пятимесячного малютку из Бреста жестоко избила его мать – ребенок умер через несколько дней. В Могилеве мать и отчим так наказывали ремнем мальчиков восьми и девяти лет, что этот ремень порвался.

Это только часть ужасающих примеров взрослой жестокости в отношении детей в современной Беларуси. И если убийства детей родителями или избиение их до такой степени, что потребовалось срочное вмешательство медиков, становятся известными, то сколько случаев жестокого обращения, нещадной лупцовки так и остаются за закрытыми дверями городских квартир и деревенских домов! Ну подумаешь, с синяками походит ребенок, поплачет в подушку, нервное расстройство заработает, запуганным станет или озлобится. Это же мама или папа так воспитывают, желая ему добра, – чтоб послушным был, а еще чтоб вещи берег.

В Беларуси каждый год в милицию поступает около 120 тысяч обращений о домашнем насилии, в том числе и в отношении детей. В прошлом году от рук близких погиб 91 человек. Было возбуждено около 2,5 тысячи дел, связанных с насилием в семье.

Женщины тоже не так уж редко становятся жертвами домашнего насилия со стороны мужей и сожителей. Что, в принципе, и неудивительно. Ведь к рукоприкладству в семье, угрозам и оскорблениям в адрес более слабых у немалой части общества либо терпимое, либо равнодушное отношение. Одни распускают руки и язык, другие смиряются, что их бьют. Ну а государство как смотрит на подобное положение вещей? МВД подготовило законопроект о противодействии домашнему насилию, который был направлен на то, чтобы признать общественную опасность домашнего насилия и выработать нетерпимое отношение к нему, обеспечить неотвратимость наказания. Руководитель государства жестко раскритиковал этот законопроект. Так что те, кто считает противодействие насилию в семье лишь модной западной формулировкой (у нас, мол, свои обычаи), похоже, могут расслабиться.

В 42 странах – это примерно 10 процентов мирового населения – запрещено бить детей дома, в школах и в местах тюремного заключения. Среди этих стран Дания, Финляндия, Испания, Норвегия, Германия, Израиль, Польша, Швеция, а также Туркменистан, Молдова, Украина…

Беларусь попала в группу стран, где бить детей запрещается только в школах и местах тюремного заключения. Среди них Россия, Италия, Китай, Швейцария, Куба, Чехия, Великобритания. Насколько широко распространено и какие формы принимает битье детей родителями в каждой конкретной стране из второй группы, какая часть общества в каждой из них приемлет и применяет на практике разрешение наказывать детей физически – это уже другой вопрос.

Вспомнился недавний разговор на тему битья детей с одной из моих знакомых. 37-летняя женщина рассказывала:

– Меня в детстве часто лупили. Нет, не за учебу, я училась хорошо. Били за то, что не убрала в доме или задержалась немного с подружками, не выполнила распоряжение вернуться точно в срок. Получала оплеухи за то, что дерзко ответила отцу, или, к примеру, за то, что кружилась по комнате и разбила какую-то вазу. Варежки на горке потеряла, платье порвала – мать меня ремнем хлестала. После школы я отучилась в институте, вышла замуж, ребенок родился. На родителей вроде и не обижаюсь, но видеть их не тянет. Я долгое время после такого их воспитания была как замороженная в плане чувств. Даже к психологу несколько раз ходила с этой проблемой. Только спустя более десяти лет после того, как уехала из дома, стала оттаивать внутри. Потеплело в душе. У меня тоже дочь. Бить ее? Никогда! Ни я, ни муж. Мы же хотим, чтобы она счастливой была.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Ілля ДАБРАТВОР: «Жонка сказала: «Гэта – апошні раз!..»

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Хаця, безумоўна, у мяне ёсць пэўныя прапановы. Сёння ў першую чаргу неабходна казаць пра пагрозу страты незалежнасці, і трэба, каб людзі пра гэта ведалі. Згубім незалежнасць – згубім амаль усё.

Лічу патрэбным нагадваць, што пабудова Саюзнай дзяржавы для простых людзей нічога добрага не нясе. Сёння беларускі цукар у Расіі каштуе менш, чым на радзіме, а мы ў Беларусі купляем многія абсалютна няякасныя расійскія прадукты харчавання. Беларускі халадзільнік у Смаленску каштуе танней, чым у Мінску. Вось вынік таго, што яны набудавалі! І што, гэта ўсё рабілі для простых беларусаў?

**– Калі ўявім, што вы ўсё-такі пераможаце на выбарах і атрымаеце дэпутацкі мандат…**

– Адразу скажу, што ў такім выпадку ад мандата адмаўляцца не збіраюся. Але ў той жа час не збіраюся ў парламенце ладзіць нейкія акцыі пратэсту ці бегаць з бел-чырвона-белым сцягам і крычаць «Жыве Беларусь!».

Калі патраплю ў парламент, то буду прасоўваць тыя каштоўнасці, якія закладзены ў праграме дзейнасці руху «За Свабоду». Будзем выкарыстоўваць усе шляхі, каб даносіць нашы задачы афіцыйным шляхам. Скажам, рух дабіваецца гарантый абароны прыватнай уласнасці і права вета грамадскасці пры прыняцці рашэнняў мясцовымі ўладамі. Павінны быць не фармальныя абмеркаванні, напрыклад, пры будаўніцтве таго ці іншага аб'екта, а сапраўдныя грамадскія слуханні.

Улады заўсёды стараліся паказаць прадстаўнікоў апазіцыі ворагамі сваёй краіны, але ж гэта абсалютна не так. Мы таксама патрыёты Беларусі і выступаем за тое, каб рабіць яе больш моцнай разам.

Мне хочацца, каб у краіне адбыліся перамены. Пры гэтым я шукаю не ворагаў, а сяброў, тых, з кім можна ісці побач. На жаль, сёння ў беларускай апазіцыі такіх не вельмі шмат. Нашы апазіцыянеры вельмі добра ўмеюць шукаць вакол сябе толькі ворагаў, а, як вядома, хто шукае, той знаходзіць. Нават унутры апазіцыі грызуць адзін аднаго, хаця, здавалася б, што тут дзяліць?

**– На ваш погляд, якіх законапраектаў сёння нам не хапае?**

– Лічу, што патрэбны законы, якія паляпшалі б умовы вядзення малога і сярэдняга бізнесу. Яму трэба даваць зялёнае святло паўсюль, дзе толькі можна. А то атрымліваецца, што замежныя прадпрымальнікі адчуваюць сябе ў Беларусі значна лепш, чым свае. Трэба вучыцца ў палякаў, там найперш ствараюць умовы для сваіх бізнесменаў.

Неабходна таксама спыніць «рэфармаванне» нашай адукацыі і не цягнуць школу ў сярэднявечча, бо ўсё гэта ператвараецца ў нейкі жахлівы сон і для дзяцей, і для настаўнікаў. У школах дзецям забаранілі карыстацца мабільнымі тэлефонамі. Настаўнікі збіраюць іх перад урокамі, затым аддаюць. Навошта гэта? І забаранілі тыя, хто, мабыць, да гэтага часу яшчэ існуе ў ленінскай эпосе. Штучныя забароны – гэта глупства, бо час такі, што сёння моладзь жыве гэтымі гаджэтамі. Калі ж вы хочаце праз такую забарону схаваць факты, мякка кажучы, непедагагічных паводзін настаўнікаў, то гэта іншая справа.

**– Наколькі мне вядома, ваша жонка таксама настаўніца. Дарэчы, як сям'я паставілася да вашага вылучэння кандыдатам у дэпутаты?**

– Я ж не першы раз вылучаюся, але зараз жонка сказала: «Гэта – апошні раз! Не марнуй час на глупства…» Яна ў мяне рэаліст, ёй больш даспадобы, калі я сям'ёй займаюся.

**– Жонка мае рацыю, бо ў вас жа пяцёра дзяцей…**

– Так, сям'я ў нас немалая. Самай старэйшай, Сафіі, 16 гадоў, яна зараз навучаецца ў каледжы. Яўсею 14 гадоў, Герману 12, Марку 10 і Агаце шэсць гадоў.

**– Напэўна, не кожны вырашыцца сёння мець такую вялікую сям'ю, хаця раней 5–6 дзяцей – гэта была нармальная з'ява.**

– Шматдзетным сем'ям і насамрэч зараз вельмі складана выжываць, я ведаю гэта па сваім уласным досведзе. Дзяржава, натуральна, аказвае пэўную дапамогу, але па вялікім рахунку ты застаешся сам-насам са сваімі праблемамі. Напрыклад, у той жа школе перад пачаткам навучальнага года даюць пэўную грашовую дапамогу шматдзетным, харчаванне льготнае, але за год могуць злупіць на розныя школьныя патрэбы ў некалькі разоў больш. У нас жа толькі на паперы бясплатная адукацыя.

Альбо далі льготу шматдзетным – яны могуць заплаціць пры «растаможцы» аўтамабіля толькі 50 працэнтаў пошліны. Думаеце, шмат знойдзецца тых, хто можа дазволіць сабе ўтрымліваць вялікую сям'ю ды яшчэ і назбіраць грошай на машыну?

І я ўжо неяк казаў, што, каб атрымаць ордэн Маці, нам давялося два гады праходзіць шматлікія праверкі, камісіі… Шчыра вам скажу: мне было проста сорамна за гэтую ўладу!

А яшчэ мне падаецца, што калі дзяржава зацікаўлена ў шматдзетных сем'ях, то адзін з бацькоў у такой сям'і не павінен працаваць. Яму трэба плаціць хаця б сярэдні заробак па краіне, пакуль малодшае дзіця не скончыць вышэйшую навучальную ўстанову. І гэтае пытанне я таксама абавязкова ўзняў бы ў парламенце.

Пасля таго як жонка выйшла з дэкрэта на працу, часу на выхаванне дзяцей у нас практычна не засталося. Мы толькі вечарам прыходзім дадому – калі іх выхоўваць? І я разумею, што ў плане выхавання мы як бацькі недапрацоўваем.

**– На вас трымаецца сямейны бюджэт?**

– Так, бо ў настаўнікаў заробкі не вельмі высокія, а на такую сям'ю, як у нас, як мінімум патрэбна каля 2 тысяч рублёў у месяц. Таму, што называецца, даводзіцца круціцца, бо дзецям не патлумачыш, што многія ў краіне наогул атрымліваюць па 300–500 рублёў.

**– Шостае дзіця не плануеце?**

– Вось гэтае пытанне мне задаюць усе, хто хоча з мяне па-добраму пакпіць. Амаль кожны лічыць патрэбным пажартаваць на тэму «шостага», таму праз вашу газету адказваю ўсім адразу: не плануем!

Жонка, як і пра мой паход на выбары, сказала так: «Гэта – апошні раз!..»

**Алесь СІВЫ.**

В ФОКУСЕ

# Как отличаются зарплаты депутатов, медсестер, директоров школ и руководителей предприятий?

*Предвыборная кампания в Беларуси – это еще и возможность узнать, сколько зарабатывают чиновники, а также сотрудники и руководители госучреждений. Публиковать информацию о доходах и имуществе от кандидатов в депутаты требует Избирательный кодекс. Размещается она в открытом доступе – на предвыборных агитационных плакатах кандидатов и в местных СМИ.*

*«Народная Воля» решила посмотреть, какие доходы задекларировали нынешние претенденты на депутатские места в Палате представителей.*

Традиционно в наш парламент выдвигается много представителей сфер медицины, образования, лесного хозяйства, ЖКХ. Встречаются сотрудники МЧС, председатели местных Советов депутатов. Немало действующих депутатов Палаты представителей хотят переизбраться на новый срок. А значит, заглянув в их декларации, можно сравнить, как отличаются, например, доходы депутатов, руководителей общественных организаций и медсестер, инженеров, контролеров, врачей.

Например, **Геннадий Давыдько** – председатель Республиканского общественного объединения «Белая Русь» – в своем агитационном плакате указал, что его доход за 2018 год составил 83.082,94 рубля. Доход Давыдько, стоит отметить, не самый высокий среди зарегистрированных кандидатов в депутаты. Так, например, индивидуальный предприниматель из Минска **Светлана Яцыно**, которая идет в депутаты по Партизанскому округу №110, задекларировала доход в размере 362.318 рублей. Яцыно работает в сфере недвижимости. Баллотирующийся по этому же округу **Станислав Траймак** – главный экономист государственного предприятия «СтройМедиаПроект» – имел в прошлом году доход 135.364 рубля.

Немаленькие доходы указали в декларациях и нынешние депутаты Палаты представителей.

Например, председатель нижней палаты парламента **Владимир Андрейченко**, который, к слову, баллотируется в Палату представителей четвертый (!) раз подряд, за 2018 год задекларировал доход в 72,1 тысячи рублей. В собственности у него квартира и земельный участок в Минске. Небезызвестный Игорь Марзалюк – председатель постоянной комиссии по образованию, культуре и науке – указал, что в прошлом году имел доход в размере 63.088 рублей, а также у него в собственности есть квартира в Могилеве общей площадью 62,8 кв.метра. Возможно, Андрейченко и Марзалюк включили в общую сумму дохода не только заработную плату. Например, у депутата **Людмилы Нижевич**, которая, как и в прошлую избирательную кампанию, баллотируется в парламент по Копыльскому избирательному округу №66, согласно опубликованной в местной прессе декларации, доход за 2018 год составил 60.907,39 рубля. 22 тысячи рублей в этой сумме – средства, полученные Нижевич от продажи ½ доли квартиры, оставшейся ей в наследство.

У рядовых депутатов Палаты представителей доходы были практически одинаковые и не превышали 40 тысяч рублей, то есть, получается, в месяц они имели 3,3 тысячи рублей. Например, **Ольга Петрашова**, член комиссии по международным делам, задекларировала 39.987 рублей дохода, **Леонид Брич** – 39,7 тысячи, **Анатолий Дашко** – 38,9 тысячи, **Ирина Рынейская** – 39.009 рублей.

Любопытно, что не меньший доход в прошлом году имели и депутаты, которые трудятся в местных Советах. Так, например, председатель Белыничского районного Совета депутатов **Андрей Ганчук**, который баллотируется по Шкловскому избирательному округу №90, задекларировал доход за 2018 год в размере 39.380,68 рубля. В то же время доход председателя Потейковского сельского исполнительного комитета Копыльского района **Ивана Цвирко** составил 20.315,07 рубля, из них 1,6 тысячи – деньги, полученные от продажи автомобиля.

Высокие доходы демонстрировали и кандидаты в депутаты из руководящего состава промышленного блока, лесного хозяйства, МЧС.

Директор Могилевского вагоностроительного завода **Виталий Мартынов** задекларировал доход за 2018 год в размере 69.556 рублей, заместитель генерального директора по коммерческим вопросам ОАО «Могилевлифтмаш» **Сергей Чертков** – 49.238, директор Бобруйского лесхоза **Андрей Цвирко** – 34.026,62 рубля, начальник Борисовского горрайотдела по чрезвычайным ситуациям **Владимир Пикуза** – 31.090,33 белорусского рубля.

А какие доходы были у кандидатов из сферы образования, культуры и медицины?

**Людмила Здорикова,** директор могилевской СШ №27, задекларировала доход в размере 34.200 рублей. **Наталья Тарасенко,** начальник отдела по образованию Могилевского райисполкома, – 16.830 рублей. Почти столько же заработала в прошлом году и директор школы-интерната для детей с нарушениями зрения города Шклова **Инга Александрова,** ее годовой доход составил 15.545 рублей. Директор Бобруйского художественного колледжа **Вера Широкая** задекларировала общий доход за 2018 год в размере 18.274,41 рубля. У конкурента Геннадия Давыдько по минскому Восточному округу №107 – директора минской средней школы №34 **Светланы Сацукевич** – доход был 19.235 рублей. В агитационном плакате заведующей детсадом №522 г.Минска **Людмилы Янковской** указан доход за 2018 год в размере 15.252,23 рубля.

**Сергей Тышковец,** директор Могилевского оздоровительно-спортивного учреждения «Школа здоровья», имел доход в размере 38.464 рубля. Директор бобруйского Дворца искусств **Инна Новикова** – 17.320,51 рубля.

Небезызвестный тележурналист, продюсер исполнительной дирекции информационного вещания ОНТ **Тенгиз Думбадзе** на своем агитационном плакате указал доход за прошлый год в 25.803 рубля. Еще один представитель СМИ – «Мисс Беларусь» **Мария Василевич** (в поданных в избирком документах должность и место ее работы звучат так: редактор отдела редакторов главной дирекции подготовки телепрограмм генерального продюсерского центра Белтелерадиокомпании) – имела скромный доход в 15.099 рублей.

Что касается медицины, то годовой доход главврача поликлиники №6 г.Могилева **Виктора Алексейкова** по месту работы составил 24.871 рубль. Главврач Бобруйской центральной больницы **Владимир Гацко** в 2018 году имел общий доход в 26.332,49 рубля. Врач-психотерапевт Минского областного роддома **Геннадий Урбанович** заработал в прошлом году 14.885 рублей. Доход медсестры Бобруйского родильного дома **Юлии Черняк,** которая пробует стать депутатом по 78-му Бобруйскому-Ленинскому избирательному округу, составил всего лишь 9988,36 рубля.

Также невысокие доходы продемонстрировали главный инженер Чаусского коммунального предприятия «Жилкомхоз» **Сергей Зайцев** – 12.151 рубль, контролер КПП ОАО «Белшина» **Владимир Загришев** – 12.115,62 рубля. Начальник отдела охраны столичного Центра олимпийского резерва по теннису **Виталий Шишов** имел и вовсе скромный доход – 5 тысяч рублей.

Получается, что годовые доходы депутатов – членов комиссий Палаты представителей выше, чем у рядовых работников страны почти в 3,5 раза, а иногда и в 8 раз!

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ПРАПАНОВА

# Замест Леніна – лаву Напалеона

*Дэмантаваны ўвесну з цэнтральнай плошчы Смаргоні помнік Леніну вяртаць назад не збіраюцца. Месца пакуль пустуе, але ёсць прапановы, чым яго запоўніць.*

Помнік Леніну ў Смаргоні на пачатку 1950-х гадоў быў усталяваны каля дзіцячай бібліятэкі. Потым яго перанеслі да школы №1, а затым паставілі на высокі пастамент перад будынкам райвыканкама.

Але, паколькі помнік быў зроблены з бетону, на ім увесь час даводзілася замазваць швы, трэшчыны, падфарбоўваць. Грошы на яго ўтрыманне патрэбны былі сур'ёзныя, а таму прыйшлі да высновы, што не мае сэнсу траціцца. Тым больш што помнік не з'яўляўся мастацкай каштоўнасцю.



Дэмантаж помніка Леніну ў Смаргоні.

Смаргонскія ўлады падстрахаваліся і праз раённую газету правялі апытанне, падчас якога большасць жыхароў раёна выказалася за тое, каб Леніна назад не вяртаць.

Вядомы скульптар **Уладзімір Церабун**, які жыве ў Смаргоні, праз СМІ прапанаваў некалькі ідэй, чым запоўніць месца, вызваленае правадыром пралетарыяту. Адна з іх – адзначыць гістарычную падзею Айчыннай вайны 1812 года: 6 снежня на ваеннай нарадзе ў Смаргоні французскі імператар Напалеон Банапарт перадаў камандаванне рэшткамі разбітай арміі маршалу Мюрату, а сам пад покрывам ночы рушыў у Парыж.

У Беларусі, паводле слоў скульптара, шмат хто прыхільна ставіўся да асобы Напалеона, спадзеючыся, што той дапаможа пазбавіцца ад путаў Расійскай імперыі і паспрые аднаўленню Вялікага Княства Літоўскага.

Скульптар лічыць, што гэта адразу магло б стаць турыстычнай адметнасцю горада. Акрамя гэтага, ён прапануе задумацца над тым, як увекавечыць у Смаргоні Крэўскую ўнію, а таксама славуты смаргонскі абаранак, пра які складзена шмат легенд.

Што датычыць Леніна, то яго нібыта плануюць усталяваць у гарадскім парку – насупраць помніку чэкістам.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## І бюстгальтар парою сыдзе даме за зброю

У пінскім рэстаран-клубе «Франт» маладзіца, якая была напапітку, адхвастала ахоўніка ўласным бюстгальтарам – ён не пускаў даму на танцы, бо яна не адпавядала дрэс-коду.

Кульнула чарку маладзіца.
Жадала, выпіўшы, яна
Патанцаваць, павесяліцца.
Аднак ахоўнік – як сцяна:
У клуб, куды ўвайсці хацела,
Загарадзіў сабой праход.
Не зрушыць ёй такое цела…
– Бо не такі ў цябе дрэс-код, –
Тлумачыў ёй мацак-граміла. –
Дый заліла сабе ў гарляк –
Чутно па «водары» –«Чарніла».
А нашы людзі п'юць каньяк.
Сюды прыходзіць той, хто ў лянцы,
А ты – адстой
І хват гной!
Яна падумала: «На танцы
Прарвуся я любой цаной!»
Аднак для спохваткі такое
У гэты момант, як назло,
У маладзіцы пад рукою
Ніякай зброі не было.
Найлепш згадзілася б цагліна,
Каб у яе ўвасобіць злосць…
Згадала, што яна – жанчына
І што ў яе бюстгальтар ёсць!
Зрабіць магчыма з гэтай рэчы
Нат адмысловую пятлю.
«Калі са зльдням біцца нечым, –
Рашыла, – пугу я зраблю!»
Яна з грудзей сарвала зброю
І з гулкім воклічам «ура»
Сышлася ў спохватцы з гарою
(Ахоўнік – існая гара).
Ахоўніку было няпроста,
Хоць ён і сапраўды мацак:
Памер грудзей шыкоўны, шосты,
Таму бюстгальтар – як гамак.
Яна ахоўніка хвастала
Па твары, спіне і між ног,
Але з таго карысці мала:
Ахоўнік-злыдзень перамог…
Змагла б у клуб яна прабіцца,
Хоць мела ўжо пагляд касы,
Каб не бюстгальтар маладзіца
Зняла як зброю, а трусы…

* * *

А я зусім не бачу драмы,
Што ёй ахоўнік даў адлуп:
Наведвайце тэатры, дамы,
А не начны распусны клуб!

БОЛЬ

# Буду шчаслівы памыліцца...

Наша мова ў смяротнай небяспецы.

Падсвядома многія беларусы гэта разумеюць, але ў той жа час самі сабе не даюць веры. Бо гэта занадта непрыемная думка. Бо ў нашых вузкіх сямейных і сяброўскіх колах, напоўненых літаратурнымі, навуковымі або проста будзённа-побытавымі інтарэсамі, нярэдка ўсё выглядае не так і страшна.

Аднак трэба глядзець праўдзе ў вочы.

Напярэдадні чарговага перапісу насельніцтва нам нагадалі вынікі папярэдніх. І яны няўмольныя. Калі ў 1999 г. беларускую сваёй роднай мовай назвалі 73,6% жыхароў краіны, дык у 2009 – толькі 53,2%. Усяго за 10 гадоў (!) часткі нашых грамадзян беларуская мова перастала быць роднай. Пры тым што пра масавы ўезд на сталае жыхарства ў Беларусь іншаземцаў у гэтыя гады гаварыць не даводзіцца.

Гэта нацыянальная катастрофа.

Я буду шчаслівы памыліцца, але будзе добра, калі ў перапісе 2019 г. беларуская мова набярэ 30%.

Мы можам абураца выпадкамі, калі сённяшнія перапісчыкі ставяць усім аўтаматам рускую мову; калі просяць абавязкова перакласці на рускую імёны, названыя па-беларуску. Мы можам крытыкаваць фармулёўкі моўных пытанняў у анкетах і выказваць недавер афіцыйным вынікам перапісу.

Але гэта будзе толькі самасуцяшэннем. Бо хібнасць у 5% і нават 10% насамрэч нічога не мяняе. І ўсе мы стаім перад жахлівым фактам: беларуская мова імкліва робіцца беларускаму народу чужой і непатрэбнай. Для вельмі многіх яна ўжо не матчына, а (у лепшым выпадку) бабуліна. І барані яе Бог стаць прабабчынай...

У апошнія гады шмат гаворыцца пра рост прэстыжу беларускай мовы, пра тое, што яна становіцца элітарнай, папулярнай сярод адукаванай моладзі. Гэта, безумоўна, надае аптымізму. Але ці не спяшаемся мы тут з высновамі? Ці не выдаём жаданае за рэальнае?

Баюся, увесь уздым зацікаўленасці моладзі беларушчынай трымаецца на адным пакаленні. На тых, чыё сталенне прыйшлося на кароткія 5–7 гадоў нацыянальнага адраджэння ў 1990-х. Менавіта іх крэатыўнасцю і пасіянарнасцю створаны многія сённяшнія культурніцка-асветніцкія праекты. У тым ліку – бясплатныя моўныя курсы. Зараз гэтае пакаленне знаходзіцца на піку актыўнасці, і нам здаецца, што насуперак усяму беларушчына будзе жыць. Але ці будзе? За пікам актыўнасці непазбежна ідзе спад. Хто прыйдзе на змену сённяшнім 30–40-гадовым?

Калі паглядзець на сённяшніх студэнтаў, на падлеткаў – што там?

У свой час Пімен Панчанка ў пранізліва балючым вершы пра беларускую мову пісаў:

*Хто за намі? Пакаленне прагавітых.*
*Халуёў я чую галасы.*

Нашы наступнікі – зусім не халуі. У многім яны лепшыя за нас: больш мэтанакіраваныя і разняволеныя. Але яны – прагматыкі, і беларуская мова іх мала цікавіць. Згадайце тых жа перапісчыкаў – сённяшніх студэнтаў, якія без пытанняў ставяць усім рускую мову і шчыра здзіўляюцца, калі ім пярэчаць.

Дзеці не вінаватыя, што амаль нідзе не чуюць беларускай мовы. Што без яе ў сённяшняй Беларусі можна спакойна атрымаць адукацыю і пабудаваць кар'еру. Што пры дэкляраваным двухмоўі фактычна ў нас адна дзяржаўная мова – руская.

Мы бясконца гаворым пра тое, што за апошнія 25 гадоў дзяржаўныя ўлады выцеснілі беларускую мову з усіх сфер грамадскага ўжытку. Што беларуская мова ў Беларусі заціснута ў гета і належным чынам не развіваецца. Але гэта толькі палова праўды.

Уся праўда ў тым, што наша мова зараз, у суверэннай Рэспубліцы Беларусь, знаходзіцца ў непараўнальна горшым становішчы, чым была ў Савецкім Саюзе і нават Расійскай імперыі. Бо за ёй ужо няма шматмільённай вёскі, якая пранесла родную мову праз стагоддзі здзекаў і забарон. І справа тут не толькі ў фізічным выміранні. У тым ці іншым выглядзе наша вёска будзе існаваць у будучыні. Бяда ў тым, што ўжо зараз яна амаль спрэс – рускамоўная.

Тое, што не здолелі зрабіць чужое войска, чужая школа і чужая царква – зрабіла чужое тэлебачанне. Проста і эфектыўна. Ад магутнага вясковага субстрату, дзякуючы якому беларуская мова выжывала вякамі, не засталося нічога.

На жаль, сённяшні хісткі ўздым папулярнасці беларушчыны, які адбываецца насуперак усім акалічнасцям, характэрны толькі для адносна нешматлікіх асяродкаў гарадской патрыятычнай моладзі. Ці будзе гэты ўздым працягвацца, каб атрымаць сапраўды ўсенародны маштаб?

Шанец на гэта з'явіцца толькі ў тым выпадку, калі нашы дзеці будуць штодня чуць і судакранацца з беларускай мовай, калі яна будзе часткай іх жыцця. А для гэтага неабходна рэзка павялічыць яе прысутнасць у публічнай прасторы.

Гэта ганьба, калі на ўсю шырыню ганка сталічнай школы вісіць вялізная шыльда, аформленая выключна па-руску. Беларускай мове тут адводзіцца сціплае месца на невялікай двухмоўнай таблічцы ля дзвярэй.

Гэта ганьба, калі сайт нацыянальнай архіўнай службы больш як за 15 гадоў існавання так і не займеў беларускай версіі, а супрацоўнікі архіваў на беларускамоўныя пісьмовыя звароты адказваюць толькі па-руску.

Гэта – ганьба, бо менавіта ўстановы адукацыі, навукі і культуры ў любой краіне павінны быць фарпостам абароны мовы тытульнай нацыі.

У нас – іначай. Нібыта Беларусь – не суверэнная краіна, а ўсяго толькі правінцыя або суб'ект федэрацыі. І нічога зрабіць немагчыма, бо ўсё – па законе. Беларуская мова стала дармаедкай ва ўласнай хаце – па законе.

Міністр замежных спраў У.Макей адкрыта заявіў пра неабходнасць падтрымкі беларускай мовы, і гэта цешыць. Але адных слоў тут мала. Адвесці нашу мову ад небяспечнай мяжы могуць толькі канкрэтныя дзеянні на дзяржаўным узроўні.

У першую чаргу ў моўным заканадаўстве трэба прыбраць злучнік *«або»*. Беларуская мусіць рэальна быць *першай* з двух дзяржаўных моў. І прыярытэт гэты дзяржава павінна непарушна замацаваць.

Усе афіцыйныя пастановы і дакументы павінны спачатку выдавацца на беларускай, а потым, пры неабходнасці, на другой дзяржаўнай мове.

Вулічныя шыльды, унутранае афармленне, інфармацыйныя стэнды, надпісы і падобнае ў дзяржаўных установах павінны ў першую чаргу выконвацца на беларускай мове і пры неабходнасці дублявацца на другой дзяржаўнай.

Інтэрнэт-сайты ўсіх дзяржаўных устаноў павінны абавязкова мець раўназначныя версіі на абедзвюх дзяржаўных мовах, аднак менавіта беларускамоўная версія мусіць быць асноўнай і адкрывацца пры заходзе карыстальніка на сайт.

Неабходна нарэшце спыніць ганебную дыскрымінацыю беларускай мовы ва ўніверсітэтах краіны і забяспечыць магчымасць атрымання вышэйшай адукацыі цалкам па-беларуску, у тым ліку па тэхнічных спецыяльнасцях.

Упакоўка ўсёй прадукцыі беларускіх вытворцаў мусіць у першую чаргу афармляцца пабеларуску, а затым, пры жаданні вытворцы, інфармацыя пра тавар можа дублявацца на другой дзяржаўнай мове і мовах іншых краін, куды экспартуецца дадзеная прадукцыя.

Нацыянальная тэлерадыёкампанія мусіць вярнуць беларускую мову ў эфір і забяспечыць яе ўжыванне як мінімум нароўні з рускай. Неабходна вярнуцца да практыкі каментавання трансляцый топавых спаборніцтваў па футболе, хакеі, баскетболе, гандболе выключна па-беларуску. А ў перспектыве – распаўсюдзіць гэтую практыку і на астатнія віды спорту, зрабіўшы спартыўны тэлеканал «Беларусь-5» беларускамоўным. Бо менавіта спартыўны кантэнт айчыннага тэлебачання найбольш запатрабаваны і цікавы для моладзі.

Таксама належыць увесці квоту на беларускамоўную музыку ў эфіры радыёстанцый краіны. Падкрэслю: не беларускую, а менавіта *беларускамоўную*. Прычым квота гэтая павінна не абмяжоўвацца начнымі гадзінамі, а безумоўна распаўсюджвацца і на прайм-тайм. Гэткі крок прывядзе не толькі да росту папулярнасці многіх ужо напісаных песень, але і стане дадатковым стымулам для беларускамоўнай творчасці айчынных музыкаў.

Трэба зрабіць усё магчымае для беларусізацыі сучаснага лічбавага асяроддзя. Дамагаца, каб глабальныя сеткавыя платформы поўнасцю падтрымлівалі беларускую мову, а найбольш папулярныя праграмы і прыкладанні мелі беларускую версію.

І нарэшце. Усе нашы чыноўнікі павінны ў аднолькавай ступені валодаць і карыстацца абедзвюма дзяржаўнымі мовамі. Гэта можа пацвярджацца здачай іспыту з атрыманнем адмысловага сертыфіката. Але экзамен мусіць быць сапраўды аб'ектыўным і не ператварацца ў фармальнасць ці прафанацыю.

Канешне, гэткая праграма многім падасца наіўнай і ўтапічнай, а яшчэ большая колькасць чытачоў палічыць яе нацыяналістычнай. Хаця насамрэч ніякага нацыяналізму тут няма.

Руская мова мае велізарны арэал распаўсюджвання, і яе існаванню ды развіццю абсалютна нішто не пагражае. А вось мова беларуская, якая можа існаваць толькі ў межах Беларусі, блізкая да поўнага выцяснення са свайго жыццёвага арэалу. І за гэтым ідзе толькі адно – смерць.

Трэба нарэшце зразумець, што сапраўды нацыяналіст – гэта не той, хто абараняе родную мову ад гібелі, а той, хто, выступаючы на баку былой імперыі або метраполіі, гэтую мову забівае.

Гаворачы пра «элітарнасць» беларускай мовы, не варта перабольшваць ды захапляцца.

Эліты – заўсёды малалікія, пераменлівыя і нярэдка хуткa і незваротна сыходзяць са сцэны. Я не хачу, каб беларуская мова была *элітарнай*. Я хачу, каб яна была *патрэбнай* кожнаму грамадзяніну нашай краіны. Не толькі ў духоўным, але і ў практычным плане. Каб веданне беларускай было абавязковай умовай высокага кар'ернага росту ў Беларусі. Толькі ў гэтым выпадку мова наша будзе жыць.

Усе прыведзеныя вышэй захады могуць прыпыніць працэс моўнага памірання. Аднак, каб цалкам спыніць яго і назаўсёды засцерагчы беларускую мову ад знікнення, патрэбна большае. Я быў бы шчаслівы памыліцца, але праз 20–30 гадоў можа быць ужо позна. Калі мы сапраўды хочам захаваць сваю мову, то нам усё ж належыць усвядоміць памылковасць увядзення двухмоўя і вярнуць беларускай мове статус адзінай дзяржаўнай. Бо гэта адзіны шлях да яе выратавання.

Іншага ў нас папросту няма.

**Зміцер КУЗЬМЕНКА,**
**гісторык.**

БЕЗ РЕТУШИ

***Открытое письмо директору Института истории Национальной Академии наук Вячеславу ДАНИЛОВИЧУ***

# Зачем белорусам молиться на русского самодержца?

Уважаемый господин директор! Прежде чем писать по существу, хочу отметить следующее. Сегодня среди российских историков существует мнение, что Россия просто обречена быть империей. Одним из самых известных сторонников такого мнения был идеолог позднего славянофильства Николай Данилевский. Из его рассуждений вытекало, что немалое количество народностей обязано было молиться на русского самодержца за то, что он взял их под свое покровительство. А иначе бы их ожидала жалкая судьба.

Судя по Вашей статье в журнале «Беларуская думка» (№8 за этот год), вы также четко стоите на славянофильских позициях. Говоря другими словами, вы считаете, что у белорусов и русских одна история. Но различия, и существенные, все же есть. И я постараюсь объяснить, в чем они.

Из поколения в поколение переходит красивый миф, что Московское княжество расширяло свои территории исключительно «полюбовно». Ни насилия, ни притеснения никакого не было. Не так, как это происходило у европейских колонизаторов. Только на самом деле московиты покоряли народы тем же огнем и тем же железом. Достаточно вспомнить, как шло завоевание нынешнего Татарстана. Кстати, приволжские татары об этом не забыли...

Ну а сейчас по существу. Вы, уважаемый директор, отстаиваете известный тезис: Киевская Русь явилась колыбелью для трех братских народов – русских, украинцев и белорусов. Но так ли это на самом деле? Крупнейший исследователь Киевской Руси академик Борис Рыбаков писал, что он рассматривает Киевскую Русь как *условное государство*. Ведь там не было ни денежной системы, ни бюрократического аппарата, без которого государство не может существовать.

Не вдаваясь в историю Киевской Руси, отмечу, что значительная часть территории этого «государства» была покрыта непроходимыми лесами и болотами, где, по словам летописца Нестора, жители вели примитивный образ жизни. Разве мой далекий предок сидел на берегу Днепра и в свободное от работы время рассуждал со своими соседями о том, что происходит в Киеве? Государство является государством тогда, когда его жители чувствуют себя его подданными. Как, к примеру, было в Древней Греции. Но в Киевской Руси этого не было! Попутно отмечу и то, что не вся нынешняя территория Беларуси входила в Киевскую Русь. Например, Полоцкое княжество, фактически ставшее основой для образования белорусского этноса.

А как быть с украинцами? Не ошибусь, если отмечу, что подавляющее большинство украинских историков отвергают постулат о единстве трех народов. О каком единстве можно говорить, если украинская Галичина только в 1939 году вошла в СССР, а до этого находилась в Австро-Венгрии? Но – выскажу свое мнение – без Украины России будет очень сложно выступать на мировой арене, не подвергаясь риску утери культурно-цивилизационной идентичности. Вот и старается она удержать Украину при себе любыми способами.

Действительно, за много столетий всё так переплелось между белорусами, русскими и украинцами, что можно смело говорить об общем славянстве. Но – не более того! У меня тесть был русский, теща украинка, дети считают себя белорусами. Но им далеко не безразличны Россия и Украина.

Первостепенной, хотя и нелегкой, задачей для белорусских историков должно быть исследование политического и социально-экономического комплекса тем, связанных с нахождением белорусских земель в Великом Княжестве Литовском и Речи Посполитой. Что и говорить, в этих государствах работало право, чего и близко не скажешь о восточной соседке. Как-то декан исторического факультета Могилевского университета Петр Дмитрочков на страницах той же «Беларускай думкі» четко и правдиво показал защищенность граждан ВКЛ от произвола власть имущих.

После трех разделов Речи Посполитой большая часть территории нынешней Беларуси вошла в состав Российской империи, где существовало крепостное право. Трудно поверить, что народонаселение там обращалось в рабство не войной, не завоеванием, а только рядом указов.

В учебниках истории обычно пишут, что крепостное право существовало и в европейских странах. Это правда, но не вся. Европейские крестьяне в самом деле были прикреплены к земельным участкам, но у них были кое-какие права, было собственное имущество, они могли даже судиться со своими помещиками. В России же крепостные крестьяне фактически не отличались от рабов. Своих соплеменников русский помещик мог продать, проиграть в карты и т.д.

Вот как откровенно писала российская императрица Екатерина II о жизни крестьян своей страны: «Нет дома, в котором не было бы железного ошейника, цепей и разных других инструментов для пытки тех, кого судьба поместила в этот несчастный мир».

Так что нашим далеким предкам пришлось в Российской империи очень и очень тяжело. И молиться, образно говоря, на русского самодержца белорусам не надо.

**Александр ПЕТРУННИКОВ.**
**Жлобинский р-н, д.Пиревичи.**

РАКУРС

# Павага да бацькі. А да маці?

Нарэшце з'явіўся прэцэдэнт, якога я даўно чакаў. Прачытаў у інтэрнэце: нехта Антось Вусовіч дамогся запісу ў сваім пашпарце без імя па бацьку. Сапраўды, дзіця нараджаецца намаганнямі дзвюх асоб – бацькі і маці, але нашы пашпарты імя па маці чамусьці ігнаруюць, выдзяляючы імя па бацьку.

У даўнейшыя часы на нашых землях традыцыі называць чалавека па бацьку не было. Як сведчыць В.Вячорка, былі назовы сыноў на *–іч*, але яны былі пазнакай пэўнага роду і пазней станавіліся прозвішчамі: Ільініч, Пятровіч, Міцькавіч-Міцкевіч або, да прыкладу, Гедымінавічы, як называлі не толькі сыноў Гедыміна, але і яго ўнукаў і далейшых нашчадкаў. Ян Станкевіч нават адзін з раздзелаў сваёго «Маленькага маскоўска-беларускага (крывіцкага) слоўнічка» назваў "Няма ветлых зваротаў па бацьку».

Гэтая традыцыя прыйшла да нас з Расіі, а там, хутчэй, запазычана ад татара-манголаў. Ва ўсходніх народаў-заваёўнікаў існаваў культ мужчыны: мужчына-ваяр – галоўны ў доме, астатнія павінны яму слугаваць. Сын мог не паслухацца маці, але не паслухацца бацькі было немагчыма. У Расіі павага да бацькавага імя прывяла нават да таго, што нярэдка ў размовах гэтым назовам і абмяжоўваюцца, замяняючы ім і імя, і прозвішча: Іваныч, Сцяпаныч…

Варта прыгледзецца да мэтазгоднасці захавання такой традыцыі ў Беларусі надалей.

Сёння, калі людзі называюць сябе хрысціянамі, але запаветаў Хрыста часцей не прытрымліваюцца або прытрымліваюцца часткова, хаатычныя палавыя сувязі амаль што лічацца нормай. Пад гэта падводзіцца нават нібыта навуковая база: маўляў, устрыманне ад сексу шкоднае для здароўя. У выніку здараецца нярэдка так, што чалавек носіць імя па бацьку, а таго бацьку не ведае (бо яго не ведае і маці, і імя па бацьку ёю прыдумана) або ведае, але бацька ніякага ўдзелу ў жыцці сына-дачкі не бярэ. Азірніцеся на сваіх знаёмых, кожны з вас знойдзе некалькі такіх.

Ведаю адну жанчыну, якую родны бацька згвалтаваў у дзяцінстве. Зараз у сталым веку яна не стварыла сям'і, не мае дзяцей. Бацькі тэта даўно няма, але яна ненавідзіць яго ўсёй душой, як ненавідзела і пры жыцці. Ненавідзіць, але імя па бацьку прапісана ў пашпарце. І гэтае імя яна чуе штодзень, бо яе, настаўніцу, вучні і калегі называюць па бацьку.

Людзі, здрыганіцеся, усвядоміўшы такую сітуацыю (не думаю, што яна адзіная), і падумайце: навошта навязваць чалавеку імя па бацьку?! І чаму пра маці наш пашпарт не ўзгадвае? Яна што, адыгрывае нейкую другасную ролю ў нараджэнні дзіцяці?

Змяніць гэтую, на мой погляд, незразумелую норму заканадаўства – адзін з важнейшых наказаў для новаабраных дэпутатаў.

І яшчэ думаю: чым займаюцца феміністкі? Чаму яны не заўважаюць гэтай ганебнай, крыўднай для жанчын традыцыі і не пратэстуюць супраць яе? Вось куды прымяніць бы іх дзейсную актыўнасць.

**Міхась БУЛАВАЦКІ.**

*Магілёў.*

РЭЗАНАНС

# І за гарою пакланіцца Настаўніку

Шаноўная рэдакцыя «Народнай Волі»! Шчыра ўдзячны вам за ўсе публікацыі – надзённыя і прысвечаныя нашай гісторыі, што з'яўляюцца на старонках газеты. Асабліва хачу адзначыць калонку Міхася Скоблы «Таямніца прафесара Лепешава». Хацелася б дадаць колькі штрыхоў да біяграфіі гэтага вялікага вучонага-мовазнаўца.

Пасля заканчэння навучання ў Гродзенскім педагагічным інстытуце Іван Лепешаў прыехаў да загадчыка кафедры рускай мовы Мінскага педінстытута Мікалая Гурскага, каб папрасіць таго стаць навуковым кіраўніком сваёй працы. Гурскі, пабачыўшы ў біяграфіі просьбіта звесткі пра знаходжанне ў савецкім лагеры, адмовіўся дапамагчы маладому навукоўцу. Тады Іван Якаўлевіч звярнуўся да прафесара Фёдара Янкоўскага, які працаваў у тым жа інстытуце. Фёдар Міхайлавіч не пабаяўся ўзяць удзел у лёсе калегі, толькі далікатна скіраваў яго на ніву беларускай мовы, на якой і вырас найлепшы знаўца айчыннай фразеалогіі.

Да месца тут успомніць, што і перакладчык «Пана Тадэвуша» Пятро Бітэль (таксама былы вязень ГУЛага) доўгі час не меў вышэйшай адукацыі (ён скончыў гімназію ў міжваеннай Вільні). І яго таксама ўзяў пад сваё крыло Фёдар Янкоўскі – абышоў з ім ўсе інстанцыі, каб без пасведчання аб навучанні ў савецкай школе, без уступных экзаменаў таго залічылі на завочнае аддзяленне Мінскага педінстытута. Ды яшчэ – з правам здаваць залікі і экзамены па індывідуальным плане!

Так што, можна сказаць, і Лепешаў, і Бітэль проста пашанцавала сустрэць на жыццёвым шляху Фёдара Янкоўскага, выдатнага мовазнаўцу і грамадзяніна, чые рашучасць і прынцыповасць шмат каму дапамаглі. За гэта мы, яго былыя вучні, павінны свайму Настаўніку, як ён сам пісаў, і за гарою пакланіцца.

**Мікола ГУЛІЦКІ,**
**былы дэкан гісторыка-філалагічнага факультэта БДПУ імя Максіма Танка.**

ВОДГУК

# Дзякуй за гэтую кнігу!

Прачытаў у апошнім нумары «Народнай Волі» ўрывак з кнігі Зінаіды Аляксандраўны Бандарэнка «Мой шлях да Беларусі». Вельмі цікава! Дзякуй рэдакцыі за публікацыю!

Я памятаю выступленні Зінаіды Бандарэнка па тэлебачанні ў лепшыя яе гады. Але, зразумела, не ведаў, які цяжкі ў яе жыццёвы шлях. Дзякуй ёй за гэтую кнігу, а таксама тым, хто дапамог у яе выданні.

Дай Вам Бог здароўя, паважаная Зінаіда Аляксандраўна! Каб Вы яшчэ многа гадоў былі з намі!

Чакаю наступных глаў.

**Міхаіл ХІЛЬМАНОВІЧ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
9 ЛІСТАПАДА 2019 г.

ЗВЕЗДЫ

# Как подписать контракт с Мадонной,
## или Правила поведения среди звезд

Мои коллеги по цеху **Олег Лукашевич** и **Александр Алексеев** *(на фото справа налево)* более двадцати лет работают на красных дорожках самых знаменитых кинофестивалей мира: Каннского, Венецианского, Берлинского. Они делают фотопортреты и берут интервью только у знаменитостей, только у небожителей киномира. И сказать, что это легкий кусок хлеба, – значит расписаться в некомпетентности: красота на картинке требует не жертв, а огромной работоспособности, знаний и связей. Работать со знаменитостями трудно, а если подробнее, то… очень трудно.




В рамках Минского международного кинофестиваля «Лістапад» Олег Лукашевич и Александр Алексеев открыли фотовыставку «Stars/Знаменитости». Она работает в городской галерее имени М.Савицкого до 8 декабря. На ней представлено несколько десятков прекрасных фотопортретов самых известных режиссеров и актеров мира: Пенелопы Крус, Катрин Денев, Мадонны, Брэда Питта, Квентина Тарантино, Элизабет Тейлор, Питера Гринуэя, Такеши Китано, Кшиштофа Занусси, Анджея Вайды, Микеле Плачидо…

Мы попросили журналистов рассказать о «кухне» профессии: как получить доступ к мировой знаменитости для личного общения? Как, будучи одним из сотни фотографов вокруг красной дорожки, добиться, чтобы звезда посмотрела в объектив именно твоей камеры? (Конечно, отвечали и Олег, и Александр, но мы для удобства читателей не стали разделять их в интервью пофамильно).

**– Какой фестиваль у вас самый любимый?**

– Каннский, конечно, номер один, у него огромный бюджет, его трудно переплюнуть. Он самый помпезный, там больше всего звезд. Венецианский и Берлинский, конечно же, уступают ему во всем, даже в отборе конкурсных фильмов.

**– Судя по количеству фото, вы хорошо освоились среди звезд, знаете правила поведения в их мире. Какие они? Поделитесь!**

– Первое: нельзя быть назойливым. Второе: надо всё до мелочей согласовывать с агентом звезды. Можно ли взять автограф во время интервью, можно ли вместе сфотографироваться? Всё должно быть оговорено заранее. Если проявите самодеятельность, то в следующий раз агент с вами работать уже не будет.

**– Агенты просят деньги за организацию встречи?**

– Ни одной копейки – звезды приезжают на фестиваль прорекламировать свой очередной фильм.

**– А кто же вам платит гонорары? Как вы, свободные художники, зарабатываете на хлеб?**

– У нас есть партнеры на каждом проекте. Например, партнер этой выставки – компания «Атлант-М Британия», официальный дилер Jaguar Land Rover в Беларуси. Как прийти с творческой идеей к богатым людям, спрашиваете? На пальцах ничего никому объяснить нельзя, спонсоры сразу просят посмотреть, что у тебя наработано за плечами.

**– Да, теперь у вас огромный архив. Но как работалось в Канне в самом начале – это был, кажется, 1996 год? Наверняка приходилось на всем экономить?**



– Конечно, а как же по-другому? Зарплата в стране была 20 долларов, а билеты на самолет стоили более 600! И связи добывались очень трудно, нас же никто не знал, свою конкурентоспособность доказывали на ходу.

**– Ночевали под кипарисами?**

– Нет, даже в 1996 году у нас всегда был отель. Не пять звезд, но со всем необходимым. Хотя на Каннском кинофестивале в принципе нет дешевых отелей. И потом, ночевка в парке невозможна по той причине, что у нас дорогая аппаратура. А утром ты идешь работать со звездой и должен как минимум быть чисто одет и хорошо пахнуть. Иначе тебя просто не подпустят к актеру. Интервью дается в огражденной, закрытой территории, просто так туда не нагрянешь – стоит охрана со списком. Потом ты подходишь к агенту, который еще раз уточняет время и место для фото- или видеосъемки.

**– Звезды требуют, чтобы перед публикацией им дали интервью на визирование?**

– Звезды – нет, просят агенты. Особенно вначале, пока мы зарабатывали репутацию. Кроме того, есть специальная аккредитационная комиссия, которая ранжирует журналистов, работающих на кинофестивалях, исходя из того, что ими сделано за год.

**– Они что, действительно просматривают такую уйму материалов от тысяч журналистов?**

– Мы проверили – просматривают. Однажды случайно послали материал позапрошлого года. И нам тут же сделали замечание! Вообще, на Каннском фестивале у журналистов шесть видов аккредитации. Самая престижная – белая, которая дается самым крутым СМИ и ТВ-каналам. Следующая – розовая с золотой точкой. У нас была именно такая! А за ней еще четыре цвета «вниз». Надо сказать, работа на кинофестивалях учит большей журналистике, после этого кажется, что нет ничего невозможного. Это дисциплинирует.

**– Кто из актеров запомнился больше всех?**

– Со всеми великими актерами работать очень интересно, это, как правило, очень глубокие люди, ты приходишь к ним, как на рентген. Там, на вершине, пустышек нет. Поэтому надо серьезно готовиться к встрече: если не цепляешь их с первого вопроса, интервью быстро сворачивается под вежливым предлогом.

**– У вас случалось такое?**

– Слава богу нет! Актеров высокого уровня сложно обмануть, они ценят и тонко чувствуют искренность. С агентами тоже требуется большая работа: мы весь год в контакте, поздравляем с праздниками. Правильно выстроенные дружеские отношения открывают потом многие двери для нашей работы. Со многими актерами и режиссерами мы поддерживаем связи. К примеру, режиссер Кшиштоф Занусси много лет подряд посылал открытки нам – где бы ни путешествовал.

**– Да, талант этого человека соответствует масштабу его личности.**

– Все звезды, как правило, очень умные люди. Например, та же Мадонна. Мы были на ее закрытой пресс-конференции и должны сказать, что она умеет управлять массами. Это тоже было шоу! Именно она вела разговор, а не наоборот.

**– Так вы делали свой знаменитый портрет Мадонны на пресс-конференции?**

– На закрытой Красной дорожке – это довольно высокий уровень аккредитации, где работало только около 30 телевизионных компаний – в то время как на фестивале аккредитовано более пяти тысяч журналистов. Есть разница? И когда нам говорят: «Подумаешь, ваши портреты… Звезд можно снять из толпы», – мы пожимаем плечами: «Иди попробуй!» Кстати, там, на дорожке, у каждого фотографа, оператора своя точка съемки, бегать нельзя ни влево, ни вправо. Поставили – работай! Да и этот квадрат еще нужно заслужить.

**– Наверное, это правильно, иначе могла бы случиться настоящая потасовка. А все-таки как заинтересовать звезду?**

– Подойти к ней по-человечески. Режиссеру Полу Верховену мы сначала подарили наш альбом «Спадчына Беларусі». Он начал его листать, увлекся… Время идет, мы волнуемся – всё расписано! А Верховен не отрывается, более того, сам начинает нам задавать вопросы про Беларусь, про храмы, усадьбы. Но в результате мы получили дополнительное время и сделали самое большое интервью. А к Ингеборге Дапкунайте пришли с букетом цветов. Она вдруг так обрадовалась, что воскликнула на всю съемочную площадку: «Ах, какие вы красивые!» То ли нас имела в виду, то ли фиолетовые тюльпаны. И сразу – настроение.

**– А к Мадонне был особый подход? Я слышала, вы единственные в Беларуси, кто подписал с ней настоящий контракт.**

– В 2011 году на Венецианском кинофестивале мы в одном зале с Мадонной смотрели премьеру фильма «Мы. Верим в любовь», режиссером которого она была. Прекрасную музыку к фильму написал Абель Корженевски, польский композитор. И позже, когда мы делали телевизионный проект «Художники Парижской школы – уроженцы Беларуси», нам пришла мысль использовать эту музыку в своих двух фильмах – о Шагале и о Сутине. Но все права на музыку были, естественно, у Мадонны! И она лично принимала решение, давать нам ее или нет. Именно так ответили нам ее помощники, попросив прежде всего прислать наш смонтированный материал. Мы буквально за два дня сделали дубляж на английский язык…

**– Ну, вы могли бы другую музыку взять, зачем преодолевать такие препятствия?**

– Нам интересно работать по максимуму. Да и музыка очень понравилась. В результате через несколько дней пришел такой ответ: Мадонна посмотрела белорусский фильм, она согласна подписать контракт и дает нам возможность самим определить ту сумму, которую мы можем заплатить за право использовать эту музыку.

**– И сколько вы заплатили Мадонне?!**

– Это коммерческая тайна, но сумма не выходила за рамки нашего бюджета. В любом случае, думаю, контракт на такую сумму Мадонна никогда раньше не подписывала.

**– Я знаю, что вас часто упрекают: занимаетесь только красотой, светской жизнью. Сплошные пирожные, «дольче вита»…**

– Красота – это тяжелый труд. Хотя бы потому, что в Беларуси нашей «сладкой жизни» никто не торопится попробовать. Хотя и критикуют. А мы ведь никому не закрыли дорогу на кинофестивали – ни одному журналисту, оператору или фотографу. Но почему-то за 20 лет никто не повторил наш подвиг.

**Елена МОЛОЧКО.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Запавет Уладзіміра Содаля




Уладзіміра Ілліча Содаля не стала чатыры гады таму. А два гады таму па просьбе яго ўдавы Клары Барысаўны я перабраў архіў даследчыка і са знойдзеных матэрыялаў склаў кнігу, якая пад назвай «Буйніцы і драбніцы» выйшла нядаўна ў выдавецтве «Лімарыус». Выданне атрымалася аб'ёмным – 560 старонак, у яго ўвайшлі моўныя нататкі Содаля (а ён быў надзвычай чуйным мовазнаўцам), яго згадкі пра выдатных беларусаў (Мікалая Улашчыка, Максіма Танка, Кандрата Крапіву, Зоську Верас…), яго перапіска і ўспаміны.

Укладаючы раздзел «Магія мовы», я літаральна смакаваў адшуканыя даследчыкам словы, якіх не знойдзеш у слоўніках: далікаткі, пламені, начэпка, клёвік, варэйка. Чужое, гвалтам накінутае беларускай мове слова ён адчуваў за вярсту і заўжды падшукваў яму натуральны адпаведнік ці ва ўласных запісах, ці ў дыялектных слоўніках, ці ў творах майстроў пяра. Тут Содаль ішоў за сваім настаўнікам Фёдарам Янкоўскім. Іхнія моўныя абразкі варта сёння папулярызаваць, яны дапамогуць ачысціць беларускі моўны палетак ад чужога пустазелля, якое абсела нашы акадэмічныя слоўнікі і ніяк не хоча адтуль выполвацца.

Моўная назіральнасць Уладзіміра Содаля дапамагала яму рабіць цэлыя адкрыцці ў літаратуразнаўстве. Вось, скажам, чаму Францішак Багушэвіч назваўся Бурачком? Няўжо паэт-будзіцель абраў сабе псеўданім у гонар вядомага ўсім караняплода, з якога можна прыгатаваць смачную і карысную салату? Зусім не. Содаль шукаў-шукаў і дашукаўся: аказваецца, даўней у беларускіх храмах карысталіся падсвечнікамі з бурачкоў. У маладых акруглых бурачках выразалі адтуліны і ставілі ў іх свечкі. Таму Багушэвічаў *Бурачок*, хутчэй за ўсё, азначае *падсвечнік* і становіцца ў адзін шэраг з такімі імёнамі, як Янка Лучына і Карусь Каганец. Усе яны ў меру сіл асвятлялі шлях Беларусі да незалежнасці.

Пачытайце Содалевы «Буйніцы і драбніцы» – і шмат цікавага даведаецеся, і ваш лексікон абавязкова пабагацее на дзясяткі адметных слоўцаў. Гэтая кніга – як запавет даследчыка і мовазнаўца нам: пільна трымайцеся свайго, і тады чужое вам не зашкодзіць.

На жаль, наклад кнігі – усяго 150 асобнікаў, у кнігарні яна не трапіць. Набыць яе можна будзе толькі на прэзентацыі, якая адбудзецца **12 лістапада** ў сталічным Музеі гісторыі беларускай літаратуры (вул.М.Багдановіча, 13). Пачатак імпрэзы ў 17.30.

**Міхась СКОБЛА.**

АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ

# Віктар Марціновіч вывучае Індыю, Вольга Бараншчыкава песціцца на востраве Лангкаві



У Мінску восень, а для некаторых вядомых беларусаў працягваецца лета.

Так, вядомы пісьменнік **Віктар Марціновіч** выправіўся ў Індыю. Як і пасуе «інжынеру чалавечых душ», Марціновіч вырашыў паглядзець на гэтую таямнічую краіну знутры і апынуўся ў сапраўдных індыйскіх трушчобах. «*Я збіраюся рушыць праз балоты, саланчакі і мангравыя гушчары да акіяна*, – падзяліўся сваімі планамі Віктар. – *Начаваць буду на вадзе, у маленькай каюце зафрахтаванага катара з камандай, якая з лексікі англійскай мовы разумее толькі «тэнк'ю» і ўсмешку. Упэўнены, нам будзе пра што пабалбатаць*».

А вось беларуская селебрыці **Вольга Барабаншчыкава**, якая зараз выпускае адзенне пад уласным брэндам Loverani, адпачывае ў пяцізоркавым гатэлі недалёка ад Малайзіі – на жывапісным востраве *Лангкаві. Разам з Вольгай дачушка Аэліта і яе няня. «Ніколі яшчэ я не бачыла такога буянства фарбаў і не чула такіх незвычайных гукаў! У сукупнасці ўсё як у казцы!* – дзеліцца сваімі ўражаннямі былая тэнісістка. – *Усё тут незвычайна. Гэта месца, куды хочацца вярнуцца! І мы вернемся*».



**Ганна ГАНЧАРЫК.**

**На фота: «Бедная рыбацкая вёска на Гангу», – падпісаў здымак Віктар Марціновіч.**

**«Падарожжа з малюсяй», – прадэманстравала ідылію Вольга Барабаншчыкава.**

УРАЖАННІ

# Прабегчы 180 кіламетраў і... не памерці

*Марафонец Андрэй Лапуць распавёў «Народнай Волі» пра свой удзел у чэмпіянаце свету па сутачным бегу.*

Спаборніцтвы прайшлі днямі ў французскім горадзе Альбі, і беларуская зборная засталася задаволена сваім выступленнем.

«*Адказная і пачэсная місія намі выканана*, – напісаў у сацыяльных сетках **Пётр Рагойша**, адзін з удзельнікаў марафону. – *Беларусь на першынстве прадстаўлялі шэсць мужчын і пяць жанчын. І гэта падзея, бо раней нават пры фінансавай падтрымцы дзяржавы і федэрацыі ўдавалася сабраць толькі мужчынскую каманду.*

*У чэмпіянаце свету бралі ўдзел 346 мацнейшых звышмарафонцаў з 45 краін свету, 147 з якіх абнавілі свае персанальныя рэкорды. Устаноўлены новы сусветны рэкорд сутачнага бегу для жанчын, абноўлены 13 нацыянальных рэкордаў…*»

– Сярод маіх таварышаў па зборнай на гэтым чэмпіянаце я паказаў другі вынік – прабег за суткі крыху больш за 180 кіламетраў, – кажа **Андрэй ЛАПУЦЬ.**

**– Была нейкая адмысловая падрыхтоўка да такіх экзатычных для многіх спаборніцтваў?**

– Натуральна, што рыхтаваўся, але нічога асаблівага не прыдумваў. За тыдзень прабягаў прыблізна 100–140 кіламетраў. Пры гэтым адну трэніроўку рабіў вялікай, падчас яе накручваў каля 40 кіламетраў.

**– Можа быць, прытрымліваліся нейкай дыеты?**

– Харчаваўся, як звычайна, хаця дадаваў пэўны комплекс вітамінаў, якія набываў сам.

**– Хто фінансаваў вашу паездку на чэмпіянат свету?**

– Федэрацыя лёгкай атлетыкі выдала ўсім форму, а вось дабірацца ў Францыю давялося за ўласныя сродкі. Хаця, трэба адзначыць, што сума на пералёт выйшла даволі смешная. Мы ляцелі з Варшавы да Тулузы лаўкостам, таму авіяквіткі туды і назад абышліся мне ўсяго ў 30 еўра. Адзінае, што іх трэба было браць зараней.

Тым, хто ў зборнай займаў два першыя месцы, аплачвала выдаткі на знаходжанне на спаборніцтвах Міжнародная федэрацыя лёгкай атлетыкі. Яна ж давала і прызавыя тым, хто за суткі прабег больш за 200 кіламетраў.



**– Вы да гэтай адзнакі не дацягнулі. Ці складаны быў марафон?**

– Не вельмі складаны, але і не зусім лёгкі. 20 гадзін мне беглася адносна лёгка, а вось затым наступіў, як кажуць, крызіс жанру. Усё-такі, калі бяжыш цэлыя суткі, то гэта не адзін круг вакол стадыёна.

Я бачыў удзельнікаў марафона, якіх ванітавала, некаторыя сыходзілі з дыстанцыі. Напрыклад, не змог дабегчы да фінішу брытанец, якога лічылі фаварытам. Са мной, дзякуй Богу, нічога экстрэмальнага не здарылася?

**– На адпачынак, напэўна ж, спыняліся?**

– Спыняўся на масаж, бо ногі ўжо скручвала, паесці і збегаць у прыбіральню. Але я, як кажуць, сумяшчаў прыемнае з карысным – еў у той час, пакуль мне рабілі масаж. У выніку ўсё гэта займала каля 20–30 хвілін, таму ўдавалася сэканоміць час.

**– Пад раніцу на сон не цягнула?**

– У гэты час я быў бадзёры, але захацелася спаць у тры гадзіны ночы. Паспрабаваў каву, але мне, што называецца, не зайшло, не сумяшчаўся гэты напітак з маім арганізмам. У той жа час я бачыў, як многія ўжывалі каву і беглі далей.

І, дарэчы, быў здзіўлены, што некаторыя ўдзельнікі пілі шмат кока-колы. Я дома наогул гэты напітак не ўжываю, але казалі, што марафонцам ён нейкім чынам дапамагае аднаўляць сілы. Відаць, энергетычны напой, там шмат калорый.

**– Ці папулярныя ў Францыі такія чэмпіянаты?**

– Мы стартавалі ў 10 гадзін раніцы па мясцовым часе, і спачатку гледачоў было даволі шмат. Днём іх стала менш, а вечарам ізноў назбіралася, і ўсе шчыра падтрымлівалі спартсменаў асбалютна з розных краін.

А больш за ўсё здзівіла, што былі і такія балельшчыкі, якія назіралі за марафонам усе 24 гадзіны. Можа быць, гэта былі блізкія ўдзельнікаў, магчыма, нехта і насамрэч цікавіўся спаборніцтвамі. Дарэчы, і дзяўчына, якая на адкрыцці першынства несла таблічку з назвай нашай краіны, таксама цэлыя суткі не спала і падтрымлівала беларускіх спартсменаў, якіх яна «курыравала».

**– Ці задаволены сваім выступленнем?**

– Шчыра кажучы, планаваў больш прабегчы, але атрымалася так, як атрымалася. Можа быць, і суб'ектыўныя фактары паўплывалі. Днём было дастаткова горача (плюс 25 градусаў), а ноччу пахаладала амаль да нуля, таму давялося скідаць шорты і апранаць ласіны. Іспанцы і аргенцінцы наогул дрыжалі ад холаду, для іх такое надвор'е – непрыемная экзотыка.

**– Якія ў вас планы зараз?**

– Буду рыхтавацца да чэмпіянату Польшчы па сутачным бегу, які пройдзе вясной наступнага года, а ў верасні адбудзецца чэмпіянат Еўропы.

**– Жонка падтрымлівае ваша захапленне, якое не прыносіць прыбытку ў сямейны бюджэт?**

– У нас з ёй поўнае паразуменне…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

В ФОКУСЕ

# Треть жителей ФРГ неоднозначно относятся к падению Берлинской стены

*Она рухнула 30 лет назад. Сегодня более половины жителей ФРГ как на востоке, так и на западе страны считают объединение Германии позитивным или очень позитивным событием, показал социологический опрос.*

Каждый третий житель Германии не может определиться с тем, было ли падение стены, разделявшей Восточный и Западный Берлин, позитивным или негативным событием.

Согласно результатам исследования, каждый седьмой опрошенный заявил, что считает падение Берлинской стены негативным событием. Для сравнения: количество немцев, назвавших это событие позитивным или очень позитивным, как в Восточной, так и в Западной Германии составило чуть больше половины респондентов (57 процентов в Восточной Германии и 54 процента в Западной Германии).




### Причины недовольства падением стены

Главной причиной недовольства среди участников опроса, проживающих в Западной Германии, стали расходы, связанные с воссоединением страны, например повышенные налоги. Некоторые «веси», как в Германии просторечно называют западных немцев, высказывали также недовольство особенностями менталитета выходцев из ГДР. В частности, ряд западных немцев заявил, что восточные немцы «ничему не научились» после объединения Германии, а также «никогда не бывают довольны».

Участники же опроса, живущие в восточных федеральных землях, жаловались на разницу в доходах и пенсиях по сравнению с западными немцами. Некоторые выражали мнение, что падение Стены привело к росту безработицы и преступности в их регионе, а также чрезмерному притоку иностранцев.

Как пояснил руководитель проекта в институте Ipsos Ханс-Петер Древс, число опрошенных, выразивших такое мнение, было так мало, что социологи не посчитали нужным указывать процентное количество соответствующих ответов. *«В целом опрос показал, что мнения о падении Стены у восточных и западных немцев отличаются не так уж и сильно»,* – заключил эксперт.

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Ва Украіне затрымалі сям'ю, якая можа мець дачыненне да забойства Паўла Шарамета

Ва Украіне Нацыянальная паліцыя затрымала мужа і жонку – добраахвотнікаў з батальёна «Правы сектар». Паводле звестак выдання «Украінская праўда», яны могуць мець дачыненне да забойства журналіста **Паўла Шарамета**.

**Уладзіслаў Грышчанка** (пазыўны «Буча») быў затрыманы 24 верасня, а яго жонка **Ірына** (пазыўны «Пума») – 5 лістапада.

Суд арыштаваў іх на час расследавання іншай справы, пачатай у ліпені 2018 года: Грышчанкаў падазраюць у замаху на забойства і неаспрэжных паводзінах са зброяй. Пасля арышту мужа Ірына Грышчанка пісала ў сацсетках, што яго справу перадалі ў Кіеў з фармулёўкай «у сувязі з датычнасцю да іншых злачынстваў». Яна заявіла, што на Уладзіслава «вешаюць» замах не толькі на Чакурака, але і на журналіста Паўла Шарамета.

Адвакат Ірыны Грышчанка **Масі Наем** кажа, што ў дакументах справы няма эпізодаў, звязаных з Шараметам.

Вядомы беларускі журналіст Павел Шарамет загінуў у цэнтры Кіева 20 ліпеня 2016 года. Аўтамабіль, у якім ён ехаў, узарваўся. Пазней высветлілася, што пад яго была падкладзена мадыфікаваная мадэль супрацьпяхотнай міны «Мон-50». Паўлу Шарамету было 44 гады.



ЕВРОПА

# Греция заманивает богатых иностранцев микроскопическими налогами

*Греция включилась в борьбу за деньги богатых иностранцев и бросила вызов Лондону, Монако и Люксембургу в попытке выбраться из затяжного экономического кризиса. Она заманивает богатей на теплые берега обещанием микроскопических налогов в обмен на скромные инвестиции.*

Любому желающему выбрать местом уплаты налогов Грецию новое консервативное правительство готово простить все налоги с заработанного за границей в обмен на единовременный платеж в 100 тысяч евро в год плюс по 20 тысяч за каждого члена семьи. Для этого достаточно провести в стране 183 дня в год и вложить полмиллиона евро в недвижимость, греческие облигации или акции.

За полтора миллиона инвестиций ежегодный платеж уменьшается вдвое, а за 3 миллиона евро – и вовсе до 25 тысяч в год.

*«Налоговые послабления рассчитаны на срок до 15 лет и включают отмену налога на наследство, полученное за пределами Греции»,* – цитирует «Рейтер» высокопоставленного греческого чиновника. По его словам, закон гарантирует стабильность налогового режима: *«Если вы получили льготу по этой программе, она ваша. Никакое будущее правительство не сможет ее отнять»*.

Таким образом Греция надеется привлечь богатых людей и оживить экономику за счет их денег. Она рассчитывает выманить крупных бизнесменов и обладателей солидных состояний с небольших Мальты и Кипра и бросить вызов северным колониям иностранных богачей в Лондоне, Женеве и Люксембурге.

Греции как никогда нужны деньги. Всего несколько лет назад она оказалась на краю обрыва и спаслась лишь благодаря кредитам ЕС и МВФ на четверть триллиона евро. Чтобы отдать их, Греции еще полвека придется жить, затянув пояса.

Новое правительство рассчитывает, что богатые люди привезут не только семьи, но и бизнес, для которого власти тоже припасли пару приятных сюрпризов. Налог на прибыль планируется снизить до 24% с нынешних 28%, а налог на дивиденды – до 5% с 10%.

Кроме того, опционы на акции будут облагаться налогом единожды – при их реализации – по ставке 15% и не будут считаться доходом до этого момента. Это должно понравиться компаниям новой экономики, которые активно используют опционы для поощрения и оплаты деятельности основателей и сотрудников, и топ-менеджерам компаний традиционных секторов.

Консерваторы рассчитывают, что все это поможет вернуть в Грецию мозги и кошельки, покинувшие страну в период затяжного кризиса и череды социалистических экспериментов левых правительств.

Греция серьезно обеднела за последние десятилетия. Из середняков среди 28 стран ЕС она сползла в тройку беднейших.

Из всех стран Евросоюза только Греция и Кипр до сих пор не восстановились после мирового финансового кризиса десятилетней давности: размер их экономики в пересчете на душу населения по-прежнему меньше, чем в докризисном 2008 году.

Правительство рассчитывает, что все налоговые инициативы парламент утвердит до конца ноября.

ВІЗІТ

## Аляксандр Лукашэнка наведае Аўстрыю

З афіцыйным візітам ён прабудзе там два дні – 11–12 лістапада. Як перадае прэс-служба кіраўніка беларускай дзяржавы, на 12 лістапада ў Аляксандра Лукашэнкі запланаваны перамовы ў вузкім і пашыраным складах з федэральным прэзідэнтам Аўстрыі **Аляксандрам Ван дэр Беленам**. Кіраўнікі дзяржаў будуць абмяркоўваць гандлёва-эканамічнае, інвестыцыйнае і гуманітарнае супрацоўніцтва. Таксама яны плануюць абмеркаваць сітуацыю ў рэгіёне і свеце, узаемадзеянне Беларусі з Еўрасаюзам, у тым ліку ў фармаце "Усходняга партнёрства".

Беларускі прэзідэнт у Вене правядзе таксама перамовы са старшынёй Нацыянальнага савета Аўстрыі **Вольфгангам Саботкам**. Акрамя таго, у фармаце рабочай вячэры ён сустрэнецца са старшынёй Аўстрыйскай народнай партыі, дэпутатам Нацыянальнага савета Аўстрыі **Себасцьянам Курцам**.

У гэтыя ж дні ў Вене будзе праходзіць аўстрыйска-беларускі бізнес-форум.

БЕЛАРУСЬ–ЕС

## Сначала договоренности – потом соглашение

Евросоюз будет готов подписать новый документ о взаимоотношениях с Беларусью («Приоритеты партнерства») только в случае достижения договоренности касательно Белорусской атомной электростанции, строящейся в Островце. Об этом, как передает «Дойче Велле», заявил нынешний еврокомиссар по политике соседства и вопросам расширения Йоханнес Хан, выступая на заседании комитета Европарламента. Строительство АЭС в Беларуси, как известно, вызывает недовольство в Литве.

Соглашение «Приоритеты партнерства», заявляют в Евросоюзе, призвано создать новые рамки для взаимодействия и знаменует новый этап в отношениях с Беларусью.

ЧУЛІ?

## 12 гадзін у чарзе

Нягледзячы на абяцанае ўзмацненне работы мытнай службы на выхадных днях, грамадзянам Беларусі даводзілася стаяць у чэргах на выезд у Літву і Польшчу да 12 гадзін.

Чэргі на выезд у Літву і Польшчу пачалі з'яўляцца ўжо 6 лістапада, а 7-га яны выраслі да ўражальных памераў. Так, у прапускным пункце «Бенякані» ў Воранаўскім раёне Гродзенскай вобласці чакалі магчымасці выехаць 190 машын, у пункце пропуску «Катлоўка» – 160, «Каменны Лог» – 120 машын. Нават у прапускным пункце «Прывалка», дзе амаль ніколі не бывае чэргаў з легкавых аўтамабіляў, сабралася 190 машын.

На мяжы з Польшчай у пункце пропуску «Брузгі» ў чарзе на выезд з Беларусі налічвалася амаль 300 легкавікоў, у «Берасцявіцы» – 140, а на брэсцкім пераходзе – 170 аўтамабіляў.

Некаторыя паведамлялі ў сацсетках, што ім даводзілася стаяць у чарзе па 9–12 гадзін. Такога на мяжы ўжо даўно не назіралася. Дарэчы, у Беластоку каля ўсіх вялікіх гіпермаркетаў стаянкі былі перапоўнены машынамі з беларускімі нумарамі. Палякі былі ўражаны такім наплывам беларусаў, а тыя ім адказвалі, што такім чынам адзначаюць дзень пралетарскай рэвалюцыі.

Ужо ў пятніцу, паводле дадзеных сайта Пагранкамітэта, сітуацыя на пагранічных пераходах нармалізавалася.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Чарговая дапамога ад Японіі

Дзве гродзенскія бальніцы ў межах праграмы ўрада Японіі «Карані травы – грантавая дапамога для праектаў па захаванні бяспекі чалавека» атрымаюць сродкі на набыццё сучаснага медыцынскага абсталявання.

Гродзенская абласная інфекцыйная бальніца стала пяцідзясятай установай, якой выдзяляецца грант японскага ўрада. 79.500 долараў пойдуць на набыццё апарата ультрагукавой дыягностыкі (УГД). Такі ж апарат, а таксама фібрабронхаскоп папоўніць дыягнастычны парк бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі. У свой час сучаснае абсталяванне дзякуючы такой падтрымцы змагла атрымаць гродзенская дзіцячая паліклініка №1.

У межах праграмы японскага ўрада «Карані травы – грантавая дапамога для праектаў па захаванні бяспекі чалавека» сродкі выдзяляюцца на дапамогу людзям, якія пацярпелі ад наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. З 2004 года праграма падтрымала каля паўсотні праектаў.

Новы апарат УГД, набыты дзякуючы японскаму гранту, атрымае служба радапамогі для абследавання нованароджаных і будучых мам. Што датычыцца прыбора з адмысловым датчыкам фібраэластаметрыі для вызначэння ступені фіброзу печані, то, паводле меркавання спецыялістаў, Гродзенская вобласць упершыню атрымала магчымасць праводзіць такую спецыфічную дыягностыку.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**



НРАВЫ

# Лишенная титулов и званий

*Что случилось с возлюбленной короля Таиланда*

Король Таиланда Маха Вачиралонгкон поразил мир, лишив свою официальную спутницу всех званий и титулов спустя всего несколько месяцев после того, как ими ее наградил.

В июле Сининат Вонгваджирапакди получила звание официального королевского консорта. Однако спустя всего три месяца при дворе сообщили, что она наказана за попытку превознести себя до статуса королевы.

Для международных наблюдателей такой резкий взлет и не менее стремительное падение человека, приближенного к королю, многое говорит о положении тайской монархии, которая к тому же оберегается законом от какой-либо критики в стране.



### Что значит титул консорта?

Статус консорта как правило присваивается спутнику или спутнице действующего монарха.

За последние сто лет Сининат стала первой, кому он был присвоен. Полученный в июле титул сделал ее официальным компаньоном монарха, но не королевой. Этот статус закреплен за четвертой женой Вачиралонгкона – Сутхидой Тиджай.

Исторически полигамия и наличие нескольких консортов у тайских королей способствовали укреплению отношений монархов с могущественными семьями из разных провинций Таиланда.

Последний раз король назначил официального консорта в 1920 году. Когда в 1932 году Таиланд стал конституционной монархией, этот титул перестали использовать.

### Кто такая Сининат?

«Мы знаем о ней только то, что угодно двору», – говорит Павин Чачавалпонгпан, доцент кафедры Юго-Восточной Азии в Киотском университете.

Сининат родилась в 1985 году на севере Таиланда. Работала медсестрой. С началом отношений с тогда еще кронпринцем Вачиралонгкорном ее жизнь кардинально изменилась.

Она стала телохранителем, пилотом, парашютисткой и была принята в ряды королевской охраны. Ранее получила звание генерал-майора.

Вереницу наград и почестей от монарха увенчал титул первого королевского консорта, который Сининат получила в 34 года.

Фотографии, которые дворец опубликовал вместе с биографией Сининат, теперь удалены с официального вебсайта.



### Что с ней произошло?

В заявлении, опубликованном в газете королевского двора, говорится, что Сининат лишили всех титулов и почестей за «неподобающее поведение по отношению к монарху».

Утверждается: она была «слишком амбициозна» и пыталась возвыситься до положения королевы, использовала собственное положение, чтобы отдавать распоряжения от имени монарха.

Королю, как сообщается, стало известно, что она «не выказывала должной благодарности и вела себя неподобающе своему статусу».

Профессор истории и тайстики Корнеллского университета Тамара Лус говорит, что в деле сложно разобраться из-за недостатка информации.

«В любой похожей ситуации существует система закулисного покровительства. Сининат, скорее всего, была частью этой системы, но сделала что-то, что не очень хорошо для нее закончилось», – говорит профессор, намекая на возможное наличие различных групп влияния при дворе.

Лус также обращает внимание на язык официального заявления, которое напоминает документ той эпохи, когда у женщин не было политических прав, поэтому о женщине с влиянием говорили, что она амбициозна.

Профессор считает заявление двора началом современной абсолютистской монархии в Таиланде.

### Что теперь ее ожидает?

Пока что Сининат лишили только титулов и званий. Последует ли за этим еще какое-то наказание, пока не известно: как королевский двор написал ее прошлое, так же он определит и ее будущее.

«Мы не знаем, что с ней произойдет», – говорит Павин, отмечая, что все последующие события, скорее всего, будут происходить за закрытыми дверями.

В 1996 году Маха Вачиралонгкон изгнал свою вторую жену Сухарини Вивачаравонгсе и отрекся от их совместных четверых сыновей, с которыми она теперь живет в США.

В 2014 году он избавился от своей третьей жены Срирасми Суванде, лишив ее всех титулов. Ее родители были арестованы за оскорбление его величества. Где сейчас находится Срирасми, не известно.

Их совместного сына, которому сейчас 14 лет, король воспитывает сам.

### Что из этого следует?

С момента своего восхождения на трон король Вачиралонгкорн использовал свое положение более прямолинейно, чем его отец.

В начале этого года он перевел под свое непосредственное командование два важнейших армейских подразделения Бангкока, сосредоточив в своих руках беспрецедентную в истории современного Таиланда концентрацию военной власти.

«Заявляя о низложении своего консорта в жесткой и грубой форме, король стремится легализовать ее наказание», – объясняет Павин.

Профессор Лус соглашается, что произошедшее – не просто размолвка монарха и его спутницы: «Король таким образом показывает свою неприкосновенность. Если вы перестали пользоваться его расположением, вы больше не властны над собственной судьбой».

«Каждый его шаг в экономике, военных или семейных делах еще раз показывает неприкрытое злоупотребление властью», – говорит эксперт.

Согласно закону «Об оскорблении его величества», неожиданное лишение всех титулов не может публично обсуждаться в Таиланде.

Народная Воля http://www.nv-online.info
9 ЛІСТАПАДА 2019 г.

Зінаіда БАНДАРЭНКА

# МОЙ ШЛЯХ ДА БЕЛАРУСІ

*(Працяг. Пачатак у №87.)*

## Маленства без дзяцінства

Адразу нам стала вядома – у нашага таты іншая сям'я. З Нямеччыны ён вярнуўся з жонкай і дзіцём. Для нас гэта было трагедыяй. Маці ніяк не адважвалася з ім сустрэцца.

Я тату не памятала, а вось Ігар быў моцна ўзрушаны і не знаходзіў сабе месца – ён жа вельмі-вельмі быў прывязаны да бацькі. Аднойчы да нас прыбегла суседка і расказала, што сустрэла Ігара, які вырашыў, што, каб тата вярнуўся да нас, трэба адрэзаць яго новай жонцы нос. Ён нават паказаў суседцы нож.

Татаў шпіталь быў размешчаны на другім беразе Сожа. Мама пабегла туды. Мост праз раку быў драўляны, з такімі вялікімі дзіркамі, што я, калі пераходзіла, нават баялася глядзець уніз – там віравала рака. Машыны па ім, натуральна, не ездзілі.

На гэтым мосце мама і дагнала Ігара, угаварыла яго не рабіць нічога кепскага. Паабяцала сустрэцца з татам.

З першай спробы сустрэча не адбылася. Тата размаўляць не захацеў. Патлумачыў так: «У мяне іншая сям'я. Ты была ў акупацыі. Я камуніст і не маю права…».

Мама плакала, і гаварыла, што з двума дзецьмі з акупацыі не магла нікуды «знікнуць», ішла вайна – і ў яе проста не было другога выйсця.

Дзве бацькавы сястры былі за Кацярыну Іванаўну, новую жонку бацькі. Дзве – цалкам за маму і ўвесь час настройвалі яе супраць новага выбару таты.

Мама ж так і не даравала тату. Яна вельмі доўга не давала яму разводу. І ён не мог аформіць новы шлюб.

Паўтаруся, Ігар быў вельмі прывязаны да таты. Кінуў вучобу ў школе. Штодзень бегаў у бальніцу паглядзець, што тата робіць, як пераходзіць з аднаго корпуса ў другі. З дапамогай таты Ігара ўладкавалі ў рамесную вучэльню. Татавы сваякі раілі маме не складваць рукі, а змагацца за сваю сям'ю, за сваё шчасце.

Недзе з год я жыла ў таты. Так маме параіла адна з яго сясцёр. Маўляў, калі пастаянна буду ў яго на вачах, можа, усё ж вернецца назад.

Увесь час я параўноўвала маму з яго новай жонкай. Мне падавалася, што мама значна прыгажэйшая. Але Кацярына Іванаўна была мудрай жанчынай. Як толькі яны прыехалі ў Гомель, яна нарадзіла другое дзіця, а неўзабаве – і трэцяе. Была і яшчэ адна прычына майго «пераезду» да таты – жытло. Мама ўгаворвала, што гэта ненадоўга, што цёця Люба не можа нас больш прымаць, бо яе муж Пятро, які быў паранены, таксама вяртаецца з вайны і мы будзем проста перашкаджаць ім. Паабяцала забраць, як толькі знойдзе пастаянную работу.


З маёй стрыечнай сястрой Ганначкай. 1953 год.

Тата жыў у добрым доме, які месціўся побач з будынкам шпіталя. Для мяне наступілі сапраўдныя пакуты. Увесь час я знаходзілася ў страху і трывозе, заўсёды чакала маму, але кожны яе прыход заканчваўся скандалам.

Кацярына Іванаўна ніколі не прымала ў іх удзелу і сыходзіла з хаты. Трэба аддаць ёй належнае – ніколі мне ні за што не наракала. Ставілася ўважліва і па-добраму.

У школе, якая была побач з працай майго таты, я скончыла першы клас. У бальніцы мяне ўсе добра ведалі. Часта бегала па палатах – некаму пачытаю верш, некаму раскажу прыдуманую жыццёвую гісторыю.

А яшчэ ў мяне быў абавязак – прыносіць са шпітальнай сталовай дадому на абед апельсінавы сок у маленькім слоіку. Ад яго ішоў такі смачны пах, што цалкам яго не даносіла. Але Кацярына Іванаўна рабіла выгляд, што не заўважае…

Я вельмі любіла трымаць на руках маленькага зводнага брата Сашу і гуляць з ім. Аднойчы Саша вырваўся з рук і ўдарыўся аб табурэтку. Ён вельмі моцна плакаў, а я разам з ім. Тата за гэты ўчынак мяне пакараў тым, што паставіў на калені ў кут.

У дарослым жыцці Саша стаў ваенным лётчыкам, служыў на Новай Зямлі (на вядомым палігоне для ядзерных выпрабаванняў) амаль восем гадоў. Аднойчы, калі быў на Вялікай зямлі ў чарговым адпачынку, распавёў, што трэба вяртацца раней, бо там нешта здарылася. А праз паўгода я даведалася, што пры тых выпрабаваннях памылкова было знішчана мірнае паселішча. Умовы службы там былі вельмі жорсткія. А гады ў брата былі ўжо не маладыя. Прыйшлося прыкласці намаганні для пераводу ў Беларусь, у Мачулішчы. Заканчваў службу тут. Але сваё здароўе ён пакінуў на Новай Зямлі. Зараз Аляксандра ўжо няма. А мне не хапае майго добрага і шчырага брата Сашы.

***

Але вернемся да майго дзяцінства.

Што да Ігара, то ён заўсёды быў галодны: у вучэльні кармілі кепска. Ён забягаў да нас (да сям'і таты), каб хоць трохі падсілкавацца. Мы з ім елі тое, што гатавалі ў «сухотнай» сталоўцы, – і калі ў школе зрабілі прышчэпку на рэакцыю Манту, у мяне выявілі адпаведную рэакцыю на сухоты.

Мама нарэшце мяне забрала. У другі клас я пайшла ўжо ў іншую школу. Пад яе перарабілі звычайны аднапавярховы драўляны дом. Год вучобы ніхто на мяне асабліва не звяртаў увагі, а вось у трэцім класе настаўніца Валянціна Сцяпанаўна доўга размаўляла са мной, а потым выклікала ў школу маму. Яна ведала гісторыю нашай сям'і і параіла мне вярнуцца ў другі клас, таму што я не заўсёды адказваю на простыя пытанні альбо адказваю недарэчна, як кажуць, лётаю ў аблоках. Давялося мне стаць «другагодніцай».

Зразумела, пакуль Гомель адбудоўваўся, мы з мамай жылі ў здымным жытле, то бок як кватаранты. Плацілі дзесяць рублёў за свой пакой. Нам заўсёды шанцавала на добрых гаспадароў. Яны любілі мяне і вельмі добра ставіліся да маёй ветлівай і добразычлівай мамы.

Працу ў Гомелі знайсці было неверагодна складана. Таму можна толькі здзіўляцца настойлівасці маёй маці, якая пачала працаваць з першага дня жыцця на новым месцы – дэзінфектарам на чыгунцы. Я ёй часта дапамагала, таму добра ведаю, як усё рабілася.


Другі клас. Я – у першым радзе трэцяя злева.

Вагоны былі выключна пасажырскія. Спачатку яны заклейваліся да поўнай герметычнасці. І я рабіла гэта разам з мамай. Пасля ставіліся металічныя печачкі, у якіх маці падпальвала серу. Потым мы адразу пакідалі вагон, а праз суткі прыходзілі іншыя людзі і ўсё прыбіралі. Пасля такой працэдуры не заставалася ніводнага паразіта. Гэта была вельмі цяжкая і небяспечная для здароўя праца.

Мама імкнулася карміць мяне як мага лепш, хоць ёй было нялёгка – заробак простага дэзінфектара быў мізэрны. Тата рэгулярна нам дапамагаў – прысылаў аліменты.

У гэты ж час у мяне пачаліся прыступы, якія з часам перараслі ў мігрэнь. Неўролаг параіў як мага больш часу праводзіць па-за Гомелем і цалкам адмовіцца ад кантактаў з новай сям'ёй таты.

І з гэтага боку лёс мяне падштурхоўваў да Уборка. Кожны год на ўсё лета мама выпраўляла мяне на летнія вакацыі – піць малако. Тым больш што там заўсёды поруч са мной была мая стрыечная сястра Ганначка, дачка дзядзькі Міколы, якую я вельмі любіла і якая потым стала маёй сапраўднай сяброўкай. Божа, як мне падабалася ездзіць ва Уборак! Вось дзе мне было раздолле!

Аднойчы мы з Ганначкай разам з уборкаўскай дзятвой вырашылі пайсці па чарніцы. Наша вёска была на раўніне, а лясы пачыналіся з боку Лесуноў (таму і назва такая). Ісці было даволі далёка, таму падняліся яшчэ да світанку.

Як толькі выйшлі з нашай вёскі, у мяне перад вачамі пачало ўсё дрыжэць. Пачынаўся чарговы прыступ…

Сястра, якой вельмі хацелася сабраць хоць крыху ягад, угаварыла дайсці да лесу. Маўляў, там крыху паспіш. У лесе вырашылі яшчэ крыху прайсці... Потым яшчэ крыху… Раса ўжо сышла. Узыходзіла сонца. Разам з чыстым лясным паветрам яно стварыла сапраўдны цуд. Мы прыселі на белы мох. Выцягнулі свае торбачкі – кавалкі хлеба з салам. А ў бідонах было малако, якое трэба было выпіць, каб было куды збіраць чарніцы. Боль пачаў сціхаць. І не заўважыла, з якім смакам ела і піла разам з усімі. А потым ускочыла, пабегла збіраць ягады. Прыступ раптам скончыўся. Цягнуўся ён менш за гадзіну. Такога ў маім жыцці не было ніколі. І калі ўжо ў дарослым узросце мне падчас выхаду на сцэну даводзілася цярпець боль па некалькі гадзін, я не раз успаміната чароўную палескую прыроду.

Але ўсё гэта засталося ў далёкім дзяцінстве…

Пасля вайны вёска Уборак хутка адбудоўвалася. У калгасе з'явіўся нават свой клуб: адну палову невялікага драўлянага дома займала бібліятэка, а другую – канцэртная зала з маленькай сцэнай.

Згадваецца такі момант. Старшыня калгаса па прозвішчы Бабраўнічы аднойчы сустрэў нас, дзяцей, на вуліцы і сказаў: «Калі б вы замест бессэнсоўнага гойсання папрацавалі б трохі на таку, я правёў бы вас на канцэрт – вечарам у клубе будуць выступаць артысты».

Божачка! Мы ўсе завіхаліся, як пчолкі. А на таку вялізныя горы зерня. Мы вёдрамі цягалі яго да веялак, засыпалі. Нехта круціў ручкі веялак. Потым ізноў беглі па зерне. Я і не заўважыла, як больш, чым трэба, затрымала вядро над веялкай, і мой чырвоны сарафанік пачало ўцягваць у кола машыны.

Я крычу, мне ўжо няма чым дыхаць. Нарэшце людзі ўбачылі, падбеглі, пачалі адкручваць ручку назад. Стаю ўся ў мазуце. Людзі і спачуваюць, і смяюцца: «Міколаву дзеўку закруціла ў веялку!»

Але мы былі шчаслівыя ў надзеі на вячэрні канцэрт. Сабраліся ля клуба, чакаем старшыню. Ён неўзабаве прыйшоў са сваімі дзецьмі. А іх у яго было, можа, чацвёра, і мы ўсе з імі сябравалі. І што? Ён праходзіць, а нас нібы не заўважыў. Гэта быў першы ў маім жыцці падман з боку так званага дзяржаўнага чалавека.

Уборкаўскія хлопцы кінуліся на мяне з кулакамі: гэта ж я сагітавала ўсю вясковую дзятву на тую працу.

***

У 34-ю гомельскую сярэднюю школу я трапіла ў пяты клас. Нас усіх перавялі са старэнькай школы ў новы будынак. Ад яго я была ў сапраўдным захапленні. Мой клас знаходзіўся аж на другім паверсе. Побач са школай месцілася вялікая царква. Пяцікупальная, адна на ўсю акругу, зараз там знаходзіцца Свята-Мікольскі мужчынскі манастыр.

Канешне, праз незачыненыя дзверы мы зазіралі ўнутр, але заходзіць баяліся, бо ва ўсіх былі піянерскія гальштукі. Мама ж туды хадзіла рэгулярна, а штораніцу і штовечар я чула, як яна моліцца. Наш пакойчык быў маленечкі – ложак, табурэтка і тумбачка. Ад мамы я і вывучыла малітву «Ойча наш».

Добра запомніла свой першы Вялікдзень у новай школе. Класная кіраўніца загадала нам, пяцікласнікам, павязаць чырвоныя гальштукі і прыйсці на ўсяночную службу, каб паглядзець, хто з бацькоў там будзе, а потым расказаць ёй.

Нягледзячы на татальную антырэлігійную прапаганду, людзі працягвалі святкаваць царкоўныя святы. Асабліва Вялікдзень. Паску пяклі амаль усе. А некаторыя да гэтага свята нават калолі свіней.

Царква была літаральна набіта людзьмі. Кожны з нас убачыў сваіх бацькоў і сваякоў, але дзецям было больш цікава глядзець на тое, як праходзіць усяночная, чым за некім сачыць.

Да даносаў нас прывучалі з дзяцінства. У панядзелак мы вельмі хваляваліся, бо не ведалі, што трэба казаць, калі прагучыць адпаведнае пытанне. На шчасце, яно не прагучала. Урок нашай класнай кіраўніцы быў апошнім, але, да гонару настаўнікаў, ні яна, ні тыя, хто быў раней, ні адным словам не прыгадалі «загад».

Калі пазней перабралася ў Мінск, імкнулася патрапіць у якую-небудзь царкву, але баялася праблем на працы. Тым больш што на тыя часы ў Мінску былі толькі два дзеючыя храмы. Але калі даводзілася выязджаць за межы рэспублікі, сітуацыя мянялася.

Памятаю, як са знакамітай актрысай Машай Захарэвіч у савецкія часы ў Маскве нас разам пасялілі ў адзін нумар гасцініцы «Космас», што знаходзіцца на ВДНГ. Вокны былі зашторaны. Калі мы рассунулі шторы, то ўбачылі цэлы царкоўны комплекс. Чароўная прыгажосць!

Звычайна было так: раніцай прыязджаеш, вечарам – канцэрт, пасля яго – адразу на цягнік. Чыноўнікі ад культуры эканомілі кожную капейку. А тут раскоша – два дні ў Маскве. Тую царкву мы наведалі двойчы. Адзін раз – перад рэпетыцыяй, другі – перад самым ад'ездам, ужо з рэчамі. Жанчыны, якія сядзелі пры ўваходзе, прапанавалі пакінуць іх побач з імі. Маўляў, ніхто не возьме. Так і адбылося. Я яшчэ тады сказала Машы: «Як добра, калі цябе ніхто не ведае. Заходзіш – і можна нікога не баяцца…»

Толькі на пачатку дзевяностых гадоў я змагла спакойна прыходзіць у праваслаўны храм у Мінску. Якраз пачаліся набажэнствы ў Петрапаўлаўскім саборы. На маіх вачах ад службы да службы дэмантаваліся бетонныя перакрыцці, якія падзялялі будынак храма на чатыры паверхі ў савецкі час і як быццам засланялі ад нас неба. Сёння гэты выдатны велічны сабор радуе вернікаў беларускамоўнымі набажэнствамі, якія я люблю наведваць. Таксама люблю бываць на службах на беларускай мове ў храме Мінскай духоўнай акадэміі, дзе вучыцца мой малодшы сын.

***

Аднак вернемся ў Гомель. Пакойчык, у якім мы жылі, быў настолькі маленькі, што нам з мамай даводзілася спаць на адным ложку – «валетам». На тумбачцы стаяў невялікі радыёпрыёмнік. Звычайная радыёкропка. Мне надзвычай падабалася перадача «Тэатр ля мікрафона», якую кожны вечар перадавалі з Мінска. Калі першы раз пачула «Паўлінку», была ў захапленні. Мама сыходзіла на працу вельмі рана, падымалася ў шэсць гадзін раніцы. Я абяцала ёй, што буду слухаць ціха-ціха. «Тэатр ля мікрафона» заканчваўся роўна а дванаццатай ночы – пачыналі біць крамлёўскія куранты. Я нагой дацягвалася да радыё і выключала – там быў спецыяльны рычажок.

Заўсёды гэта атрымлівалася, але аднойчы радыё са страшэнным грукатам звалілася на падлогу. Маці ўскочыла з ложка. Прыёмнік зламаўся. Я заплакала. Мама зразумела, але нічога мне не сказала. Раніцай аднесла яго ў майстэрню – і хутка ён зноў стаяў на тумбачцы, а я працягвала слухаць тэатральныя пастаноўкі.

Настаўнікі ў новай школе былі цудоўныя ва ўсіх сэнсах. Фізкультуру вяла сапраўдная прыгажуня. Практыкаванні дзяўчатам і хлопчыкам яна звычайна давала розныя. У сёмым класе яна заўважыла, што некаторыя з дзяўчат пачынаюць сарамліва сутуліцца. Усё зразумела, хлопчыкаў адпусціла, а з дзяўчынкамі мела размову. Як кажуць, ад прыроды нікуды не падзенешся…

## Жыццёвы накірунак

Недзе ў сёмым класе на ўрокі літаратуры, на якіх дзеці звычайна на памяць чытаюць вершы, пачаў прыходзіць кіраўнік школьнага драматычнага гуртка. Ён адразу запрасіў мяне на рэпетыцыі. Памятаю, ставілі спектакль «Юбілей» паводле Чэхава, мне выпала галоўная роля – Тацццяны Аляксееўны. Мама з гэтай нагоды дзесьці прыдбала прыгожую доўгую сукенку. Менавіта тады я ўпершыню пачула апладысменты, адрасаваныя асабіста мне.

Да гэтага часу ў мяне была мянушка «Бандароўна», на якую я чамусьці крыўдзілася. Пасля той пастаноўкі яна змянілася на «Артыстку». Першай мяне так назвала настаўніца матэматыкі Ніна Барысаўна Цогліна.

Калі паглядзець мой атэстат сталасці, то там пяцёркі толькі па беларускай літаратуры і прыродазнаўстве. Па прадметах Цоглінай заўсёды былі тройкі. Менавіта з гэтай прычыны яна і назвала мяне артысткай.

Аднойчы на ўроку геаметрыі, помню, таемна чытала кніжку «Мая малодшая сястра» нейкага французскага аўтара. З кнігамі ў тыя пасляваенныя гады ўвогуле былі вялікія праблемы. Іх папросту не хапала. Я шмат чытала і дзеля гэтага пастаянна бегала ў бібліятэку Палаца чыгуначнікаў. Цогліна забрала тую кніжку і расказала пра гэты выпадак у настаўніцкай.

«Пакаранне» для мяне было знойдзена даволі арыгінальнае.

Выкладчыца беларускай мовы і літаратуры сказала: «Хутка мы будзем праходзіць трылогію «На ростанях» Якуба Коласа. Раман толькі выйшаў, кнігу не даюць «на рукі», і прачытаць яе можна выключна ў чытальнай зале бібліятэкі. Не ўпэўнена, што гэта зробіць кожны з вучняў. Калі ты такая аматарка чытаць – прачытаеш трылогію, а потым будзеш пераказваць змест рамана ўсяму класу».

Амаль тыдзень пасля школы бегала ў бібліятэку – і да яе закрыцця чытала раман. А пераказы зместу кнігі ў класе сталі ў маім жыцці першымі публічнымі выступамі…


9 «А» СШ №34 г.Гомеля. Я – другая справа ў першым радзе.

Па вялікім рахунку, мы любілі Ніну Барысаўну. Нягледзячы на строгасць і прынцыповасць, яна была вельмі добрым і шчырым чалавекам. І жыла вельмі сціпла, у чым мы пераканаліся, калі прыйшлі да яе дадому віншаваць са святам 8 Сакавіка.

Добра памятаю 9 сакавіка 1953 года, дзень пахавання Сталіна. Першым урокам была матэматыка. Ніна Барысаўна падышла да акна, убачыла прыспушчаны чырвоны сцяг з жалобнай чорнай стужкай на будынку рабочага інтэрната – і пачала гучна рыдаць. Неўзабаве плакаў увесь клас, плакала ўся школа. І гэта не перабольшванне. Многім тады здавалася, што са смерцю Сталіна жыццё заканчваецца. Людзі не думалі, ды проста не ведалі пра тое, колькі гора і слёз пакінуў у краіне гэты чалавек.

Згадваецца таксама «школьная бульба», калі нас накіравалі на працу ў адзін з калгасаў Рагачоўскага раёна, – як мы пяклі шарлотку, чым вельмі здзівілі мясцовых гаспадынь, як беглі ўздоўж чыгуначнага палатна, калі работу закончылі на некалькі дзён раней, а аўтобус па нас прыязджаў толькі ў выхадныя.

У Гомелі мы жылі на розных кватэрах, але адна запомнілася больш за ўсё – вуліца Дзяржынскага, 158. У гаспадыні гэтага дома было тры дачкі, усе дактары. Адна з іх выйшла замуж за Героя Савецкага Саюза. На ўсю зіму гаспадыня з'язджала ў Маскву да сваёй сярэдняй дачкі, аднак мы з мамай ніколі не жылі ўдвух. У гаспадыні быў трохпакаёвы дом. У адным пакойчыку жылі мы, адзін яна зачыняла для асабістых мэтаў, а ў трэці пускала яшчэ адных кватарантаў.

Менавіта ў ім і пасялілася маладая пара са сваёй мамай Марыяй Яфрэмаўнай. Сям'я Шчагловых пераехала з Сярэдняй Азіі на працу пасля заканчэння Ленінградскага электрамеханічнага інстытута. Мы адразу моцна пасябравалі. Я вельмі любіла цётку Таю і дзядзьку Толю. З імі было вельмі цікава. Яны столькі ўсяго распавядалі пра жыццё ў Сярэдняй Азіі! Часта прыязджалі іх родзічы з Кіргізіі, прывозілі самыя розныя невядомыя нам усходнія пачастункі. У маладосці Марыя Яфрэмаўна была сакратаркай у Міхаіла Фрунзэ, калі той служыў у Кіргізіі.

Яна расказвала шмат цікавага пра наркама, а яшчэ пра тое, як пасля размеркавання яе дзяцей чытала ў старой энцыклапедыі інфармацыю пра беларускі горад Гомель. І дазналася, што большасць насельніцтва складаюць яўрэі, і чамусьці перад пераездам у Гомель пачала баяцца такога асяроддзя. Да вайны так і было, але пасля яе ўсё істотна змянілася…

Увогуле ж на нацыянальную прыналежнасць у нас ніколі не звярталі ўвагі. На «Гомсельмаш» ехалі людзі з усяго Савецкага Саюза, у асноўным рускія. Некалі там працавала 30 тысяч чалавек. Сям'я Шчагловых мела вялікі ўплыў на маё развіццё, на мой светапогляд.

***

Пасля апошняга званка ў восьмым класе мы гулялі ў парку Паскевічаў на беразе Сожа. Моцнае цячэнне, немалая шырыня ракі. Было даволі цёпла, і хтосьці прапанаваў пакупацца. З дзяўчат ні адна не адважылася. А за мяне гэта вырашылі нашы хлопцы-аднакласнікі – проста падпіхнулі ў ваду. Даплыла да сярэдзіны ракі і адчула, што мяне прабралі дрыжыкі, вярнулася назад. Мусіць, гэтае купанне і стала прычынай таго, што я захварэла на плеўрыт. А неўзабаве быў пастаўлены іншы дыягназ – сухоты. У маім арганізме пасялілася палачка Коха – так мне растлумачыў тата. Для яго мая хвароба стала вялікім перажываннем: у галоўнага ўрача бальніцы для сухотнікаў дзіця хворае на сухоты! Перажывала і я. Праз кожныя чатыры гадзіны (навучыла другая жонка таты Кацярына Іванаўна) мне даводзілася рабіць самой сабе ўколы.

Лячэнне было вельмі сур'ёзным, мяне нават адправілі ў санаторый «Свяцк», што месціўся ў старым панскім маёнтку недалёка ад Гродна, кіламетраў за 10–12. Цяпер яго ўжо няма.

Калі праз шмат гадоў працавала на рэспубліканскім тэлебачанні, аднойчы мы былі ў тых мясцінах. Пры нашым Дзяржкамітэце быў створаны секстэт домраў заслужанага артыста Беларусі Леаніда Смялкоўскага, які ладзіў па ўсёй рэспубліцы канцэрты. І менавіта з гэтым калектывам я і прыехала. Ледзь пазнала будынак, дзе калісьці быў той шыкоўны дзіцячы санаторый...

Я лячылася і вучылася – і праз паўтара года (ці крыху раней) у мяне ўжо былі нармальныя аналізы.

У дзясятым класе я спадабалася настаўніку рускай мовы і літаратуры Эдуарду Яўгенавічу Лякерману. Паглядаў ён на мяне з асаблівай цеплынёй, на перапынках часта падыходзіў, задаваў пытанні, расказваў пра сябе, раіў абраць артыстычны накірунак, бо ў мяне ёсць сапраўдны талент. Дзяўчаты такую ўвагу адчуваюць адразу.

Эдуард Яўгенавіч быў сынам вядомага ўсяму Гомелю лекара-неўролага Лякермана, да якога мы з мамай раней хадзілі яшчэ з нагоды маіх частых галаўных боляў. Той паставіў правільны дыягназ і расказаў, як трэба за сабой сачыць.

У 1956 годзе скончыла школу. Паўстала пытанне, кім быць, якім жыццёвым шляхам крочыць далей. Раптам у дом, дзе мы з мамай жылі, завітаў Эдуард Яўгенавіч. Расказаў, што да яго прыехалі сябры з Кіева, людзі даволі ўплывовыя. На наступны дзень яны зайшлі да нас разам. Лякерман пазнаёміў са сваім сябрам, былым галоўным інжынерам ДнепраГЭС Баляславам Даніловічам і яго жонкай Лідзіяй Якаўлеўнай. Аказалася, ён ім расказаў пра мае артыстычныя поспехі і захапленні.

Яны параілі разам з імі ехаць у Кіеў – паступаць у тэатральны інстытут. Маўляў, зрабіць гэта ў Мінску будзе амаль немагчыма, бо там не хапае месца нават для дзяцей артыстаў. З Кіева яны прыехалі на сваёй «Победе», справа была толькі ў дазволе маёй маці. Вагалася яна нядоўга, і ў той жа дзень мы выехалі.

Даніловічы жылі на Чырвонаармейскай вуліцы, зусім недалёка ад Майдана. Вялікая кватэра, прыгожая абстаноўка, вельмі ветлівая гаспадыня. На наступны вечар яны набылі квіткі ў цырк, на прадстаўленне знакамітай утаймавальніцы тыграў Ірыны Бугрымавай. Гэтага выступу я не магла дачакацца. І тут раптам прыходзіць тэлеграма з Гомеля ад Варвары Анісімаўны (у якой на той момант мы здымалі пакой): «Мама захварэла. Тэрмінова прыязджай!» Эдуард Яўгенавіч у хваробу не паверыў. Зразумеў, што заўважылі яго адносіны да мяне…

Перад ад'ездам мы паспелі схадзіць у тэатральны інстытут. Даніловіч нешта доўга высвятляў. Урэшце мяне чакала моцнае расчараванне. Яго «пратэжэ», то бок мяне, пагаджаліся дапусціць да іспытаў, але не бачылі ў гэтым ніякага сэнсу – галоўнай умовай вучобы было свабоднае валоданне ўкраінскай мовай…

Увечары мяне адпраўлялі ў Гомель. На цыркавое прадстаўленне Ірыны Бугрымавай я так і не патрапіла. Эдуард Яўгенавіч выкупіў для мяне адной цэлае купэ, скрупулёзна перапісаў усе дадзеныя правадніцы і папрасіў яе ўважліва за мной сачыць. Зразумела, яму хацелася зрабіць так, каб потым не было ніякіх прэтэнзій, аднак усе хваляванні былі дарэмныя – цягнік адыходзіў напалову пустым.

А мама мая сапраўды была здаровая…

*(Працяг у наступным нумары.)*

